ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№12 (2518)

20 сакавіка 1997 г.
Выдаецца з 1955 г.

Цана 1 000 рублёў.

## АСЯРОДАК ДЗІЦЯЧАЙ ФАНТАЗІІ



**Фотакарэспандэнт "Голасу Радзімы" Віктар СТАВЕР пабываў у Слуцкім гарадскім цэнтры дзіцячай творчасці, дзе хлопчыкі і дзяўчынкі рознага ўзросту заняты самымі разнастайнымі мастацкімі справамі. Створаны цэнтр быў яшчэ ў 1950 годзе, і, напэўна, не адзін юны талент вызначыў сваю жыццёвую дарогу з дапамогай гэтай установы. Сёння тут займаецца амаль паўтары тысячы дзяцей, з якімі працуюць 40 педагогаў.**

**У цэнтры больш за сто гурткоў, студый і аб'яднанняў. Сюды прыходзяць дзеці, якія хочуць маляваць, спяваць, танцаваць, займацца дэкаратыўна-прыкладной творчасцю, якія захапляюцца тэатрам або хочуць навучыцца гаспадарыць.**

**НА ЗДЫМКУ: Таня БАБЕЙКІНА займаецца ў Цэнтры дзіцячай творчасці. Яна і яе сяброўкі вырабляюць такія слуцкія паясы.**

**(Заканчэнне фотарэпартажу на 4-й стар.).**

## «ЖЫВАТВОРНЫ КРЫЖ ЕФРАСІННІ ПОЛАЦКАЙ ТРЭБА ШУКАЦЬ У РАСІІ»

**З супрацоўнікам прэс-службы ўпраўлення Камітэта дзяржаўнай бяспекі па Магілёўскай вобласці Беларусі Сяргеем БАГДАНОВІЧАМ гутарыць карэспандэнт Інтэрфакса.**

***— Сяргей Уладзіміравіч! Многія гісторыкі, палітычныя дзеячы, мастацтвазнаўцы заяўляюць аб неабходнасці актывізаваць пошукі беларускай нацыянальнай святыні — жыватворнага крыжа Ефрасінні Полацкай, які знік у першыя дні Вялікай Айчыннай вайны. Якая яго гісторыя?***

— Гісторыя крыжа Ефрасінні Полацкай напэўна знаёмая многім са школы. Пачатак яна бярэ ў XII стагоддзі.

Тайна знікнення святыні звязана з першымі днямі Вялікай Айчыннай вайны. У ходзе эвакуацыі крыж Ефрасінні Полацкай бясследна знік з пакоя-сейфа былога Магілёўскага абкома партыі, дзе ён захоўваўся з іншымі нацыянальнымі рэліквіямі. З таго часу аб ім нічога невядома. Усім, хто звязаў сваю работу, а часам і жыццё з пошукам крыжа, цяпер прыходзіцца задавальняцца толькі версіямі. Тым не менш яшчэ тлее надзея, што крыж не прапаў і яго можна адшукаць, каб вярнуць народу.

Свае намаганні да вырашэння гэтай тайны прыкладваюць і супрацоўнікі Камітэта дзяржаўнай бяспекі Магілёўскай вобласці.

***— Вы ўжо даўно спрабуеце праліць святло на акалічнасці знікнення крыжа. Ці ўдалося за гэтыя гады дабіцца якіх-небудзь поспехаў?***

— Тайны не нараджаюцца самі па сабе. Іх ствараюць людзі. Ім жа трэба будзе ў далейшым іх і разгадваць. На

**(Заканчэнне на 5-й стар.).**

*ЛІТАРАТУРНЫ РУДЗЕНСК*

## УСКОПВАЮЧЫ ДЗЕДАЎСКІ ДРЫВОТНІК...

Вось ён — Рудзенск — зусім блізкі ад Мінска. На паўдарозе да Мар'інай Горкі (хто не ведае — да чыгуначнай станцы Пухавічы). Зараз — усяго толькі гарадскі пасёлак. У нядаўнім мінулым — раённы цэнтр. Зараз Рудзенскага раёна няма. "Сталіца" Рудзеншчыны засталася. Жыве, развіваецца, старэе і маладзее. Гэта ўжо як паглядзець, што выбраць за пункт адліку ўзросту Рудзенска. У мяне асабіста дык ёсць некаторае шкадаванне, што сярод літаратурнай моладзі апошніх гадоў няма рудзенскіх хлопцаў і дзяўчат. З Рудзенскам жа гэтулькі звязана ў гісторыі беларускай літаратуры. Усё стагоддзе наша звязана!

Першае імя, якое з'яўляецца гонарам Рудзенска, усяе Пухаўшчыны, ды і ўсяе Беларусі, — імя Міхася Чарота (1896—1937). Энцыклапедычныя даведнікі даволі сцісла падаюць характарыстыку "чырванакрылага вешчуна", фактычна ж — пачынальніка, рухавіка савецкага перыяду беларускай літаратуры. Менавіта Чарот (сапраўднае прозвішча — Кудзелька) уцягнуў у літаратуру, у шматгранны літаратурны працэс масы. Першая кніга песняра зборнік вершаў "Завіруха" пабачыла свет у 1922 годзе. І ўжо ў 1923 годзе Чарот стварае літаратурную арганізацыю "Маладняк". Усяго праз два гады яна ўбірае ў свае шэрагі

**(Заканчэнне на 7-й стар.).**

ПАЧЫНАЛЬНІК НОВАГА НАПРАМКУ Ў РАЗВІЦЦІ БЕЛАРУСКАГА ШКЛА

## «АМЕТЫСТ», «ТАПАЗ» «СМАРАГД» ДЫ ІНШЫЯ

У пачатку года ў Беларускім мастацкім музеі можна было наведаць персанальную выставу, прысвечаную 75-годдзю з дня нараджэння Галіны Ісаевіч — патрыярха беларускага мастацкага шкла.

З вышыні канца 90-х гадоў ужо можна сказаць, што тзоры Галіны Анатольеўны сталіся гістарычнай класікай беларускага мастацкага шкла, якое паспяхова развівалася на працягу 50-х—80-х гадоў. Амаль трыццаць гадоў працавала яна ў галіне мастацкага шкларобства Беларусі. Г. Ісаевіч скончыла аддзяленне жывапісу Мінскага мастацкага вучылішча. Працоўны і творчы шлях у галіне мастацкага шкларобства пачала ў 1957 годзе на пасадзе галоўнага мастака Упраўлення шкляной і хімічнай прамысловасці Савета народнай гаспадаркі пры Савеце Міністраў БССР, якому падпарадкоўваліся вядомыя шклозаводы "Нёман" і імя Дзяржынскага. З гэтага ж года яна пачала праектаваць узоры шкляных вырабаў для тыражыравання іх на гэтых шклозаводах, каб падняць мастацкі ўзровень шклянога посуду.

Ісаевіч першая з беларускіх мастакоў (а ў гэты час на шклозаводах працавалі прыезджыя мастакі Н. Растоўцава і Я. Гладкоў) адмовілася ад ужывання традыцыйнага — на той час стылістычна састарэлага накладу каляровага шкла на бясколернае і наступнага дзкаравання яго алмазнай так званай



**НА ЗДЫМКУ: ваза "Зарыва".**

**(Заканчэнне на 7-й стар.).**

## ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

*НА ВЫШЭЙШЫМ УЗРОЎНІ*



7 сакавіка адбыўся афіцыйны візіт у Маскву Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Лукашэнкі. Адбылася яго сустрэча з Прэзідэнтам Расійскай Федэрацыі Барысам Ельцыным. Пра вынікі гэтай сустрэчы гаворыць сумесная заява, якую мы друкуем ніжэй.

НА ЗДЫМКУ: у час сустрэчы ў Крамлі Аляксандра ЛУКАШЭНКІ і Барыса ЕЛЬЦЫНА.

# СУМЕСНАЯ ЗАЯВА ПРЭЗІДЭНТА РАСІЙСКАЙ ФЕДЭРАЦЫІ Б. М. ЕЛЬЦЫНА І ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ А. Р. ЛУКАШЭНКІ

Утварэнне 2 красавіка 1996 года Супольніцтва Расіі і Беларусі стала гістарычнай падзеяй, якая вывела на новы ўзровень працэс яднання двух брацкіх народаў і інтэграцыі нашых дзяржаў.

Галоўнай задачай Супольніцтва з першых дзён яго фарміравання з'яўляецца забеспячэнне правоў і інтарэсаў расійскіх і беларускіх грамадзян. Ім прадастаўлены ўжо роўныя правы на медыцынскую дапамогу, атрыманне адукацыі, на працаўладкаванне, аплату працы, іншыя сацыяльныя гарантыі.

Стварэнне адзінай мытнай прасторы, работа па забеспячэнню аднолькавых умоў функцыянавання суб'ектаў гаспадарання Расіі і Беларусі, ажыццяўленне сумесных эканамічных і сацыяльных праграм робіць усё ўзрастаючы пазітыўны ўплыў на вырашэнне праблем, якія стаяць перад нашымі народамі.

Расія і Беларусь устанавілі цеснае і даверлівае ўзаемадзеянне ў галіне знешняй палітыкі. Нашы краіны адзіныя ў сваім непрыманні планаў прасоўвання НАТО на Усход, якое тоіць у сабе стварэнне на кантыненце новых раздзяляльных ліній і небяспечнае процістаянне. Аб'яднаўшы свае намаганні, абедзве дзяржавы будуць і далей актыўна дабівацца фарміравання ў Еўропе сістэмы ўсёабдымнай бяспекі, якая б справядліва ўлічвала інтарэсы ўсіх членаў еўрапейскай сям'і народаў.

Аднак жыццё патрабуе ад нас больш настойліва і эфектыўна ісці па шляху далейшага збліжэння. Расіяне і беларусы цалкам справядліва чакаюць важкай практычнай аддачы ад пачатых спраў. Мы не маем права падмануць спадзяванні нашых народаў і поўныя рашучасці зрабіць далейшыя захады па паглібленню інтэграцыі.

Прэзідэнты Расійскай Федэрацыі і Рэспублікі Беларусь зыходзяць з неабходнасці ўмацавання прававой асновы Супольніцтва, павышэння дзейснасці ўсіх яго структур. Для гэтага прадугледжваецца ўзмацненне ўладных паўнамоцтваў Вышэйшага савета і Выканаўчага камітэта, дакладная рэгламентацыя пытанняў утварэння і кампетэнцыі іншых сумесных органаў.

Наспелай мерай з'яўляецца стварэнне эфектыўнага механізма рэалізацыі рашэнняў, што прымаюць органы Супольніцтва. Своечасовае і поўнае іх выкананне ўсімі дзяржаўнымі органамі, юрыдычнымі і фізічнымі асобамі Расіі і Беларусі павінна стаць непарушным правілам.

На ўзроўні выканаўчых органаў дзяржаўнай улады неабходна ўстанавіць такі механізм узаемадзеяння, які забяспечыў бы прамыя кантакты паміж іх кіраўнікамі пры вырашэнні пытанняў, што маюць узаемную цікавасць, а таксама пастаянны абмен бягучай інфармацыяй.

Меры па павышэнню эфектыўнасці дзейнасці ствараных і ствараемых міждзяржаўных органаў прэзідэнты бяруць пад свой непасрэдны кантроль.

У якасці першачарговай задачы разглядаецца уніфікацыя заканадаўстваў дзвюх краін. Важная роля ў яе вырашэнні павінна належаць Парламенцкаму сходу, які сёння функцыяне недастаткова рэзультатыўна. Для стварэння паўнацэннай прававой базы інтэграцыі трэба ўстанавіць парадак, пры якім прынятыя Сходам у рамках яго кампетэнцыі акты заканадаўчага характару ўводзяцца парламентамі кожнай дзяржавы-ўдзельніцы ў прававую сістэму па такой працэдуры, якая забяспечвала б уступленне іх у сілу ў найкарацейшыя тэрміны.

У эканамічнай галіне лічым неабходным стварыць роўныя арганізацыйна-эканамічныя ўмовы для суб'ектаў гаспадарання абедзвюх дзяржаў, правядзення ўзгодненай структурнай палітыкі. У гэтых мэтах асаблівую ўвагу ўдзяляць выкананню сумесна падрыхтаванай праграмы сінхранізацыі эканамічных рэформаў.

Распрацаваць і ажыццявіць комплекс мераў, накіраваных на забеспячэнне найбольш спрыяльных умоў для прыярытэтнага развіцця гандлю, бесперашкоднага перамяшчэння тавараў, паслуг, капіталаў і рабочай сілы. Для гэтага стварыць к канцу 1997 года асновы адзінай нарматыўна-прававой базы, перш за ўсё шляхам распрацоўкі агульных нормаў, а таксама уніфікацыі грамадзянскіх і мытных кодэксаў, сінхроннага ўвядзення адзінага падатковага заканадаўства.

У сферы вытворчасці актыўна рэалізоўваць сумесныя навуковыя і вытворчыя праграмы, ствараць транснацыянальныя кампаніі, распрацаваць схему ўзгодненага развіцця і размяшчэння вытворчых магутнасцей.

Сфарміраваць аб'яднаныя транспартую і энергетычную сістэмы, сістэму сувязі.

Забяспечыць выхад на больш высокі ўзровень эканамічнай інтэграцыі шляхам правядзення адзінай грашова-крэдытнай і бюджэтнай палітыкі з перспектывай заключэння валютнага саюза.

Пры фарміраванні бюджэту Супольніцтва выкарыстоўваць таксама адлічэнні ад мытных збораў Расіі і Беларусі па нарматывах, устаноўленых Вышэйшым саветам.

Усё гэта будзе садзейнічаць пабудове адзінага эканамічнага комплексу ў інтарэсах паспяховага вырашэння сацыяльных праблем.

У сацыяльна-гуманітарнай галіне пачаць з 1998 года пераход на адзіныя стандарты ў сацыяльнай палітыцы Супольніцтва, забяспечыўшы паступовае выраўноўванне аплаты працы, павышэнне ўзроўню жыцця насельніцтва абедзвюх дзяржаў. У першую чаргу гэта датычыць дапамог і льгот ветэранам вайны і працы, інвалідам і малазабяспечаным сем'ям.

Эфектыўным інструментам, што забяспечвае поўную роўнасць расіян і беларусаў, магло б стаць увядзенне інстытута грамадзянства Супольніцтва, пры якім кожны грамадзянін Расійскай Федэрацыі і кожны грамадзянін Рэспублікі Беларусь таксама з'яўляецца грамадзянінам Супольніцтва.

Актывізаваць двухбаковыя гуманітарныя, культурныя, навукова-тэхнічныя і інфармацыйныя сувязі, завяршыць работу па адкрыццю ў Маскве і Мінску інфармацыйна-культурных і навукова-тэхнічных цэнтраў.

Прэзідэнты Расіі і Беларусі перакананы, што нашы народы, стаўшы на шлях яднання, зрабілі правільны выбар на ўсе наступныя часы, і гэта, безумоўна, будзе садзейнічаць забеспячэнню эканамічнага росту і бяспекі Супольніцтва, павышэнню дабрабыту нашых грамадзян.

У імя гэтай святой справы неабходна дзейнічаць энергічна і мэтанакіравана.

**Б. М. ЕЛЬЦЫН, А. Р. ЛУКАШЭНКА.**

*г. Масква, 7 сакавіка 1997 года.*

*СЕСІЯ ПАРЛАМЕНЦКАГА СХОДУ*



10 сакавіка ў Мінск на трэцюю сесію Парламенцкага Сходу Супольніцтва Беларусь—Расія прыбыла дэлегацыя з 55 парламентарыяў Расіі на чале са Старшынёй Дзяржаўнай Думы Генадзіем Селязнёвым. Адказваючы на пытанні журналістаў, Г. Селязнёў заявіў: "Наша дэлегацыя, у склад якой увайшлі дэпутаты Дзярждумы і члены Савета Федэрацыі, прыехала да беларускіх калег з новымі ідэямі, якія тычацца стварэння саюза дзвюх славянскіх дзяржаў. Да 2 красавіка — першай гадавіны з дня ўтварэння Супольніцтва Беларусі і Расіі — мы разлічваем падпісці з канкрэтнымі вынікамі інтэграцыі. Я цвёрда перакананы, што двойка, а затым і чацвёрка краін СНД, якія больш цесна інтэгрыруюцца, неўзабаве будуць мець свае асобыя варыянты пагадненняў, а ў перспектыве і свае статуты. Спадзяюся, што не за гарамі той час, калі мы створым новую канфедэратыўную дзяржаву".

Вынікі работы сесіі падведзены ў Пастанове Парламенцкага Сходу.

НА ЗДЫМКУ: у час сустрэчы расійскіх парламентарыяў у аэрапорце ў Мінску.

*АПАЗІЦЫЯ ПРАТЭСТУЕ*

# СУПРАЦЬ ІНТЭГРАЦЫІ БЕЛАРУСІ І РАСІІ

У дзень прыбыцця ў нашу краіну дэлегацыі расійскага парламента, 10 сакавіка, прадстаўнікі апазіцыі арганізавалі ў Мінску палітычную акцыю, накіраваную супраць інтэграцыі Беларусі і Расіі.

Гарадскія ўлады дазволілі правесці пікетаванне колькасцю да 40 чалавек побач з плошчай Незалежнасці, каля Чырвонага касцёла. Аднак к названаму часу — 18 гадзінам — на плошчы сабраліся сотні людзей. Справа ў тым, што мінчане яшчэ напярэдадні знайшлі ў сваіх паштовых скрынях ананімныя лістоўкі з заклікам прыняць удзел у гэтай акцыі пратэсту.

На думку работнікаў праваахоўных органаў, колькасць маніфестантаў не перавышала тысячы чалавек. Паводле іншых ацэнак, было ў 2—3 разы больш. Вялікая колькасць людзей, якія сабраліся недалёка ад Дома ўрада, пагражала перакінуцца на праезную частку. Каб не перашкаджаць руху транспарту, работнікі міліцыі, якія прыбылі для аховы парадку, вымушаны былі пацясніць дэманстрантаў на тратуары.

Нягледзячы на заклікі супрацоўнікаў МУС да прысутных не парушаць парадак і разысціся, удзельнікі акцыі на працягу гадзіны скандзіравалі лозунгі, спалілі расійскі флаг і пудзіла. Затым калона з некалькіх соцень пераважна маладых людзей выйшла на праезную частку праспекта Ф. Скарыны і дайшла да станцыі метро "Кастрычніцкая".

Паколькі рух аўтатранспарту на праспекце працягваўся, работнікі міліцыі, каб пазбегнуць няшчасных выпадкаў, узялі на сябе клопаты аб бяспецы дэманстрантаў, якіх яны ў хуткім часе зноў пацяснілі на тратуар. К 21 гадзіне жыццё на галоўным праспекце сталіцы ўвайшло ў прывычны рытм.

На пытанне, ці ёсць затрыманыя і пацярпеўшыя ў час акцыі, карэспандэнтам БЕЛТА ў ГУУС і МУС адказалі, што гэтыя даныя ўдакладняюцца.

Як паведамляе карэспандэнт газеты "Звязда", былі затрыманы лідэры БНФ Юрась Беленькі, Вінцук Вячорка, Лявон Баршчэўскі, Вячаслаў Сіўчык і Алесь Бяляцкі.

Усяго, па падліках В. Сіўчыка, было затрымана да 100 чалавек. Па звестках міліцыі — толькі 46. "Ніводзін грамадзянін не быў незаконна затрыманы", — заявіў начальнік упраўлення ўнутраных спраў Мінгарвыканкома Б. Тарлецкі.

*IV АГУЛЬНАПОЛЬСКІ*

# СПЯВАЕ БЕЛАСТОЧЧЫНА

Вялікім гала-канцэртам закончыўся ў Беластоку IV агульнапольскі фестываль "Беларуская песня-97". Прадстаўнічае міжнароднае журы пад старшынствам народнага артыста Беларусі Міхася Дрынеўскага за тры дні праслухала дзесяткі калектываў з Беластока і яго ваколіц, якія выконвалі народныя мелодыі, сучасныя беларускія песні. Сярод удзельнікаў фестывалю былі як даўно вядомыя і папулярныя калектывы і выканаўцы, так і новыя, створаныя нядаўна. Цешыць, што традыцыі беларускіх спеваў падхопліваe моладзь, дзеці. А гэта, як падкрэсліў старшыня Беларускага грамадска-культурнага таварыства Янка Сычэўскі, дае надзею, што беларуская справа на Беласточчыне будзе жыць, развівацца і ўзбагачацца ноым вопытам.

Агульнапольскі фестываль беларускай песні праходзіў пад непасрэдным патранажам прэм'ер-міністра Польшчы Уладзіміра Цімашэвіча, які прысутнічаў на заключным гала-канцэрце і прывітаў удзельнікаў фестывалю на беларускай мове.

Сярод ганаровых гасцей на канцэрце прысутнічалі віцэ-маршалак польскага сейма Аляксандр Малахоўскі, польскія міністры і іх намеснікі, паслы і сенатары, кіраўнікі ваяводства і высокія духоўныя асобы, спонсары фестывалю. Быў у зале і старшыня Дзяржаўнага камітэта па справах рэлігій і нацыянальнасцей Рэспублікі Беларусь Аляксандр Білык, а таксама дэлегацыі Гродзенскай і Брэсцкай абласцей і Беларускага таварыства па сувязях з суайчыннікамі за мяжой (таварыства "Радзіма"). На канцэрце прысутнічала таксама прадстаўнічая дэлегацыя беларускага дыпламатычнага корпуса на чале з паслом Беларусі ў Польшчы Віктарам Бурскім. Высокае польскае кіраўніцтва паабяцала і надалей апекавацца развіццём беларускай справы на Беласточчыне, дапамагчы ў завяршэнні будаўніцтва Беларускага музея ў Гайнаўцы.

*ВІЦЕБСКІЯ АГУРОЧКІ*



Першы ўраджай агуркоў вырасцілі ў цяплiцах падсобнай гаспадаркі работнікі Віцебскага тэлевізійнага завода.

НА ЗДЫМКУ: цяплічніца Галіна ПРАЦУК збірае агуркі.

# ДЭКРЭТ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## № 5
## АБ СХОДАХ, МІТЫНГАХ, ВУЛІЧНЫХ ШЭСЦЯХ, ДЭМАНСТРАЦЫЯХ І ПІКЕТАВАННІ Ў РЭСПУБЛІЦЫ БЕЛАРУСЬ

Да прыняцця Закона Рэспублікі Беларусь, які рэгулюе парадак правядзення сходаў, мітынгаў, вулічных шэсцяў, дэманстрацый і пікетавання, у мэтах рэалізацыі канстытуцыйных правоў і свабод грамадзян, забеспячэння грамадскай бяспекі і парадку пры правядзенні названых мерапрыемстваў на вуліцах, плошчах і ў іншых грамадскіх месцах Рэспублікі Беларусь і ў адпаведнасці з часткай трэцяй артыкула 101 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь **пастанаўляю:**

1. Устанавіць, што выкарыстаныя ў гэтым Дэкрэце асноўныя тэрміны азначаюць наступнае:

"сход" — сумесная прысутнасць групы грамадзян для публічнага абмеркавання і выказвання іх адносінаў да дзеянняў асоб і арганізацый, падзей грамадска-палітычнага жыцця, а таксама вырашэння пытанняў, якія закранаюць іх інтарэсы;

"мітынг" — масавы сход грамадзян для публічнага абмеркавання і выказвання іх адносінаў да дзеянняў асоб і арганізацый, падзей грамадска-палітычнага жыцця, а таксама вырашэння пытанняў, якія закранаюць іх інтарэсы;

"вулічнае шэсце" — арганізаваны масавы рух грамадзян па пешаходнай ці праезнай частцы вуліцы (дарогі), бульвара, праспекта, плошчы з мэтай прыцягнення ўвагі да якіх-небудзь праблем або публічнага выказвання сваіх грамадска-палітычных, рэлігійных настрояў ці пратэстаў;

"дэманстрацыя" — арганізаваны масавы рух грамадзян па пешаходнай ці праезнай частцы вуліцы (дарогі), бульвара, праспекта, плошчы з мэтай прыцягнення ўвагі да якіх-небудзь праблем або публічнага выказвання сваіх грамадска-палітычных, рэлігійных настрояў ці пратэстаў з выкарыстаннем плакатаў, транспарантаў і іншых сродкаў;

"пікетаванне" — публічнае выказванне грамадзянамі грамадска-палітычных, групавых, асабістых і іншых інтарэсаў ці пратэсту (без шэсця), у тым ліку шляхам галадоўкі, па якіх-небудзь праблемах з выкарыстаннем ці без выкарыстання плакатаў, транспарантаў і іншых сродкаў.

2. Аб намеры правядзення сходу, мітынгу, вулічнага шэсця, дэманстрацыі ці пікетавання падаецца заява ў мясцовы выканаўчы і распарадчы орган, на тэрыторыі якога плануецца правядзенне названага мерапрыемства.

Калі сход, мітынг, вулічнае шэсце, дэманстрацыя ці пікетаванне плануецца праводзіць на тэрыторыі некалькіх адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак або колькасць тых, хто ўдзельнічае ў іх, будзе перавышаць 5 тысяч чалавек, заява падаецца ў вышэйстаячы выканаўчы і распарадчы орган.

У горадзе Мінску заява падаецца ў Мінскі гарадскі выканаўчы камітэт.

3. Заява падаецца арганізатарам сходу, мітынгу, вулічнага шэсця, дэманстрацыі ці пікетавання.

Арганізатарамі могуць выступаць грамадзяне Рэспублікі Беларусь, якія пастаянна жывуць на яе тэрыторыі і дасягнулі васемнаццацігадовага ўзросту.

Арганізатарам прызнаецца грамадзянін, які названы ў гэтай якасці ў заяве аб правядзенні сходу, мітынгу, вулічнага шэсця, дэманстрацыі ці пікетавання і ўзяў на сябе ў пісьмовай форме абавязацельства па забеспячэнню арганізацыі гэтага мерапрыемства, або асоба, якая фактычна выконвае арганізатарскія функцыі па падрыхтоўцы і правядзенню гэтых мерапрыемстваў.

Калі ініцыятарамі сходу, мітынгу, вулічнага шэсця, дэманстрацыі ці пікетавання выступаюць палітычныя партыі, грамадскія аб'яднанні, прафесіянальныя саюзы і іншыя арганізацыі, яны вызначаюць арганізатара гэтага мерапрыемства.

4. Заява падаецца ў пісьмовай форме не пазней чым за пятнаццаць дзён да намечанай даты правядзення мерапрыемства. У заяве ўказваюцца мэта, форма, месца правядзення мерапрыемства, час яго пачатку і заканчэння, маршруты руху, плануемая колькасць удзельнікаў, прозвішчы, імёны, імёны па бацьку арганізатараў, іх месца жыхарства і работы (вучобы), меры па забеспячэнню парадку пры правядзенні мерапрыемства і дата падачы заявы. Тэрмін падачы заявы вылічваецца з дня яе рэгістрацыі ў мясцовым выканаўчым і распарадчым органе.

Кіраўнік выканаўчага і распарадчага органа ці яго намеснікі абавязаны разглядзець заяву і не пазней чым за пяць дзён да часу правядзення мерапрыемства ў пісьмовай форме паведаміць арганізатару аб прынятым рашэнні.

Рашэнне можа быць абскарджана ва ўстаноўленым заканадаўствам парадку.

5. Не дапускаецца правядзенне сходаў, мітынгаў, вулічных шэсцяў, дэманстрацый і пікетавання на аб'ектах метрапалітэна, чыгуначнага, воднага і паветранага транспарту, а таксама на адлегласці менш за 50 метраў ад тэрыторый прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый, што забяспечваюць абараназдольнасць, бяспеку дзяржавы і жыццядзейнасць насельніцтва (грамадскі транспарт, забеспячэнне вадой, электраэнергіяй, цяплом і іншымі энерганосьбітамі).

Сходы, мітынгі, вулічныя шэсці, дэманстрацыі і пікетаванне паблізу будынкаў Рэзідэнцыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь, Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь, тэлерадыёцэнтра могуць праводзіцца на адлегласці не менш за 200 метраў, а паблізу будынкаў рэспубліканскіх органаў дзяржаўнага кіравання, мясцовых выканаўчых і распарадчых органаў, дыпламатычных прадстаўніцтваў і консульскіх устаноў, судоў, органаў пракуратуры — на адлегласці не менш за 50 метраў.

Сходы, мітынгі, вулічныя шэсці, дэманстрацыі і пікетаванне могуць праводзіцца з 8.00 да 22.00 гадзін.

У мэтах забеспячэння правоў і свабод грамадзян, грамадскай бяспекі, а таксама нармальнага функцыянавання транспарту, прадпрыемстваў, устаноў, арганізацый кіраўнік выканаўчага і распарадчага органа мае права змяніць час і месца правядзення мерапрыемства.

Мясцовымі выканаўчымі і распарадчымі органамі могуць быць вызначаны пастаянныя месцы для правядзення сходаў, мітынгаў, вулічных шэсцяў, дэманстрацый і пікетавання, а таксама месцы, дзе правядзенне названых мерапрыемстваў не дапускаецца.

6. Забараняецца правядзенне сходаў, мітынгаў, вулічных шэсцяў, дэманстрацый і пікетавання, калі мэтай іх правядзення з'яўляецца насільнае змяненне канстытуцыйнага ладу або прапаганда вайны, сацыяльнай, нацыянальнай, рэлігійнай і расавай варожасці.

7. Да атрымання дазволу на правядзенне сходу, мітынгу, вулічнага шэсця, дэманстрацыі або пікетавання арганізатары названых мерапрыемстваў не маюць права ажыццяўляць іх падрыхтоўку, у тым ліку аб'яўляць у сродках масавай інфармацыі аб часе і месцы іх правядзення, вырабляць і распаўсюджваць з гэтай мэтай лістоўкі, плакаты і іншыя матэрыялы.

8. Сходы, мітынгі, вулічныя шэсці, дэманстрацыі і пікетаванне, а таксама выступленні ўдзельнікаў праводзяцца ў вызначаныя тэрміны і ў абумоўленым месцы ў адпаведнасці з мэтамі, указанымі ў заяве.

Арганізатары сходаў, мітынгаў, вулічных шэсцяў, дэманстрацый і пікетавання абавязаны:

пастаянна прысутнічаць на праводзімых мерапрыемствах;

забяспечваць захаванне ўмоў і парадку правядзення мерапрыемстваў, бяспеку грамадзян, захаванасць будынкаў, збудаванняў, транспартных сродкаў і іншай маёмасці, а таксама зялёных насаджэнняў;

выконваць усе законныя патрабаванні работнікаў органаў унутраных спраў і садзейнічаць ім у забеспячэнні грамадскага парадку;

у выпадку спынення праводзімага мерапрыемства рашэнне аб гэтым давесці да ведама яго ўдзельнікаў;

мець знак адрознення арганізатара праводзімага мерапрыемства;

з'яўляцца па запрашэнню кіраўнікоў (іх намеснікаў) выканаўчага і распарадчага органа ці органа ўнутраных спраў для ўдакладнення пытанняў, звязаных з правядзеннем мерапрыемства.

9. Пры правядзенні сходаў, мітынгаў, вулічных шэсцяў, дэманстрацый і пікетавання ўдзельнікі абавязаны захоўваць грамадскі парадак і выконваць усе законныя патрабаванні арганізатараў праводзімага мерапрыемства і работнікаў органаў унутраных спраў.

Арганізатарам мерапрыемстваў і іх удзельнікам забараняецца:

перашкаджаць руху транспарту і пешаходаў;

ствараць перашкоды для бесперабойнага функцыянавання прадпрыемстваў, устаноў і арганізацый;

устанаўліваць палаткі, іншыя часовыя збудаванні;

уздзейнічаць на работнікаў міліцыі з мэтай перашкодзіць выкананню імі службовых абавязкаў;

мець пры сабе халодную, агнястрэльную, газавую і іншую зброю, выбуховыя рэчывы і боепрыпасы, іх імітатары і муляжы, а таксама спецыяльна вырабленыя ці прыстасаваныя прадметы, якія могуць быць выкарыстаны для нанясення шкоды жыццю і здароўю людзей ці матэрыяльнага ўрону грамадзянам, прадпрыемствам, установам, арганізацыям;

выкарыстоўваць плакаты, транспаранты і іншыя сродкі, якія змяшчаюць заклікі да насільнага змянення канстытуцыйнага ладу або прапагандуюць вайну, сацыяльную, нацыянальную, рэлігійную ці расавую варожасць, што зневажаюць гонар і годнасць службовых асоб дзяржаўных органаў;

карыстацца флагамі, вымпеламі, не зарэгістраванымі ва ўстаноўленым парадку, эмблемамі, сімваламі, плакатамі, змест якіх накіраваны на нанясенне ўрону дзяржаўнаму і грамадскаму парадку, правам і законным інтарэсам грамадзян.

10. Сходы, мітынгі, вулічныя шэсці, дэманстрацыі і пікетаванне, а таксама падрыхтоўка да іх павінны быць спынены па патрабаванню кіраўнікоў (іх намеснікаў) выканаўчага і распарадчага органа, органа ўнутраных спраў, арганізатара названага мерапрыемства, калі не была пададзена заява ці прынята рашэнне аб забароне, парушаны парадак іх правядзення, прадугледжаны пунктам 9 гэтага Дэкрэта, а таксама пры ўзнікненні небяспекі для жыцця і здароўя грамадзян або парушэнні грамадскага парадку.

У выпадку адмовы ўдзельнікаў праводзімых мерапрыемстваў ад выканання названых патрабаванняў органамі ўнутраных спраў у адпаведнасці з заканадаўствам прымаюцца неабходныя меры па спыненню сходу, мітынгу, вулічнага шэсця, дэманстрацыі і пікетавання.

11. Дзяржаўныя органы, палітычныя партыі, грамадскія аб'яднанні, прафесіянальныя саюзы, а таксама грамадзяне не маюць права перашкаджаць сходам, мітынгам, вулічным шэсцям, дэманстрацыям і пікетаванню, што праводзяцца з захаваннем парадку, устаноўленага гэтым Дэкрэтам.

12. Устанавіць, што:

парушэнне ўстаноўленага парадку арганізацыі або правядзення сходаў, мітынгаў, вулічных шэсцяў, дэманстрацый і пікетавання

цягне за сабой папярэджанне ці накладанне штрафу ад 20 да 150 мінімальных заработных плат або адміністрацыйны арышт на тэрмін ад трох да пятнаццаці сутак.

Тыя ж дзеянні, учыненыя паўторна на працягу года пасля прымянення мераў адміністрацыйнага спагнання або ўчыненыя арганізатарам сходу, мітынгу, вулічнага шэсця, дэманстрацыі або пікетавання,

цягнуць за сабой накладанне штрафу ад 150 да 300 мінімальных заработных плат або адміністрацыйны арышт на тэрмін ад дзесяці да пятнаццаці сутак.

Карыстанне флагамі, вымпеламі, не зарэгістраванымі ва ўстаноўленым парадку, эмблемамі, сімваламі, плакатамі, змест якіх накіраваны на нанясенне ўрону дзяржаўнаму і грамадскаму парадку, правам і законным інтарэсам грамадзян,

цягне за сабой папярэджанне або накладанне штрафу ў памеры ад 10 да 100 мінімальных заработных плат або адміністрацыйны арышт ад трох да пятнаццаці сутак і канфіскацыю гэтых прадметаў.

Пратаколы аб адміністрацыйных правапарушэннях, прадугледжаных гэтым пунктам, маюць права складаць службовыя асобы органаў унутраных спраў, а разглядаць справы аб такіх правапарушэннях — суддзі.

13. Арганізатары і ўдзельнікі мерапрыемстваў, якія ўчынілі дзеянні, дзе ў наяўнасці прыкметы злачынства, нясуць адказнасць у адпаведнасці з крымінальным заканадаўствам.

14. Матэрыяльны ўрон, нанесены грамадзянам, прадпрыемствам, установам, арганізацыям у час правядзення сходаў, мітынгаў, вулічных шэсцяў, дэманстрацый і пікетавання іх удзельнікамі, падлягае кампенсацыі вінаватымі асобамі ва ўстаноўленым заканадаўствам парадку.

15. Выканаўчы і распарадчы орган можа дадаткова рэгламентаваць парадак правядзення сходаў, мітынгаў, вулічных шэсцяў, дэманстрацый і пікетавання з улікам мясцовых умоў і патрабаванняў гэтага Дэкрэта.

16. Парадак арганізацыі і правядзення сходаў, мітынгаў, вулічных шэсцяў, дэманстрацый і пікетавання, устаноўлены гэтым Дэкрэтам, не распаўсюджваецца на сходы працоўных калектываў, палітычных партый, грамадскіх аб'яднанняў, прафесіянальных саюзаў і іншых арганізацый, якія праводзяцца ў закрытых памяшканнях у адпаведнасці з заканадаўствам, іх статутамі і палажэннямі.

17. Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь:

у месячны тэрмін прывесці свае рашэнні ў адпаведнасць з гэтым Дэкрэтам;

у двухмесячны тэрмін:

распрацаваць і прадставіць Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь праект Закона Рэспублікі Беларусь "Аб сходах, мітынгах, вулічных шэсцях, дэманстрацыях і пікетаванні";

падрыхтаваць прапановы аб унясенні адпаведных змяненняў у заканадаўчыя акты Рэспублікі Беларусь.

18. Прызнаць страціўшым сілу Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР ад 4 красавіка 1988 года "Аб зацвярджэнні Палажэння аб парадку арганізацыі і правядзення сходаў, мітынгаў, вулічных шэсцяў і дэманстрацый" (ЗЗ БССР, 1988 г., № 10, арт. 155; № 24, арт. 378).

19. Кантроль за выкананнем гэтага Дэкрэта ўскласці на дзяржаўнага сакратара Савета бяспекі Рэспублікі Беларусь.

20. Дэкрэт уступае ў сілу з дня его апублікавання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

5 сакавіка 1997 г.
г. Мінск.

## АСЯРОДАК ДЗІЦЯЧАЙ ФАНТАЗІІ





(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

**НА ЗДЫМКАХ: будынак, дзе размяшчаецца Слуцкі гарадскі цэнтр дзіцячай творчасці; гуртком "Беларускі сувенір" кіруе Марыя ПРЫВОДА; музычная студыя. З вучаніцай 2-га класа Наташай САРАГАВЕЦ займаецца педагог Любоў КРАЎЧЭНЯ; ансамбль народнага танца "Вясëлінка".**





*ПІСЬМЫ З-ЗА МЯЖЫ*

# БЕЛАРУСЫ Ў МУРМАНСКУ

Дазвольце мне выказаць свае невялікія меркаванні наконт знаходжання ўрадавай дэлегацыі Беларусі на чале з прэм'ер-міністрам Лінгам у Мурманскай вобласці ў лютым гэтага года.

Я доўгі час жыву ў Запаляр'і, але не памятаю, каб да нас прыбывала ўрадавая дэлегацыя такога высокага ўзроўню. Прыязджаюць да нас дэлегацыі з Нарвегіі ці Швецыі, але ўзначальваюць іх губернатары. Карацей кажучы, роўня сустракаецца з роўняй...

А тут на табе! Такі высокі ўзровень. Можа я памыляюся наконт гэтага: ідзе зараз своеасаблівая "примерка платья". Бо, вядома, Расія цвёрда стаіць на пазіцыях уваходжання Беларусі як суб'екта ў Федэрацыю. Тады, як гавораць, пас...

Але калі адкінуць усё гэта, то можна толькі вітаць працэс наладжвання прамых сувязей паміж Беларуссю і Расіяй. Гэта пойдзе на карысць абодвум рэспублікам і народам. Так, да прыкладу, з Мурманскай вобласці ў Беларусь будзе пастаўляцца мінеральная сыравіна з Хібін, якой так не хапае Гомельскаму хімзаводу і прадукцыю якога так чакаюць у калгасах і саўгасах.

Някепска атрымліваць марскую рыбу, накшталт траскі, смак і выгляд якой забылі беларусы....

А мурманчане чакаюць неабходную прадукцыю з Беларусі, асабліва трыкатаж.

Але больш за ўсё мяне здзівіў нарыс, надрукаваны ў "Мурманском вестнике", прысвечаны знаходжанню беларускай урадавай дэлегацыі, у якім паказвалася, што сельгаспрадукцыя, якая будзе пастаўляцца з Беларусі для маракоў Паўночнага флоту, будзе значна таннейшая, чым з Расіі.

Каб не быць "голословным", высылаю гэты артыкул.

У сувязі з гэтым узнікае пытанне: няўжо такая багатая Беларусь, што не ведае, куды падзець грошы?..

**Аляксандр ПЯТРУННІКАЎ.**

Манчагорск,
Мурманская вобласць.

***Ніжэй друкуем два артыкулы з "Мурманского вестника".***

# БОЛЬШЕ НЕТ ПОГРАНИЧНЫХ СТОЛБОВ

— Дни Республики Беларусь в Мурманске — это очередной шаг в развитии наших отношений. Уже подписано 190 контрактов и 150 протоколов о намерениях сотрудничества. И что тоже немаловажно, мурманчане смогли сделать сотни покупок на выставке-ярмарке, — так начал своё выступление глава администрации мурманской области Юрий Евдокимов во время подписания договора.

Пребывание на нашей земле правительственной делегации братской республики, теперь ставшей независимым государством, завершилось заключением договоров о сотрудничестве между Мурманской областью и Республикой Беларусь, а также Торгово-промышленной палатой Республики Беларусь и Северной торгово-промышленной палатой.

Предполагается, что дальнейшее сотрудничество будет развиваться в четырех основных направлениях. Это промышленность, сельское хозяйство, кредитно-банковское дело и культурные связи. Решено открыть торговое посольство Беларуси в Мурманске.

— Мы вырыли пограничные столбы, и теперь наши страны открыты к сотрудничеству, — сказал исполняющий обязанности премьер-министра Республики Беларусь Сергей Линг. — Ведь именно в Россию раньше ввозили большую часть производимой в Беларуси продукции. Сейчас наша страна начинает выходить из экономического кризиса. Объемы производства увеличиваются, и мы стараемся расширять рынки сбыта.

С. Линг также выразил пожелание, чтобы наконец-то белорусы смогли покупать рыбу напрямую в Мурманске, а не через Норвегию. Предполагается открыть в братской славянской стране пять магазинов "Океан", где и будет продаваться продукция нашей рыбной отрасли.

**Наталья ГРЕЧИНА.**

# ГОТОВЫ ВЕРНУТЬСЯ НА ФЛОТ

Мощный белорусский десант на мурманскую землю, конечно же, не мог обойти стороной Североморск. И хотя программа визита была выдержана в традиционной международной схеме — встреча с командованием, музейная часть, посещение боевого корабля, — влекло гостей на флот отнюдь не экскурсионное любопытство. Они не скрывали, что их приезд в Североморск своего рода "разведка боем" и имеет помимо экономической чисто практическую цель.

Многие годы, даже десятилетия Северный флот был надежным торговым и деловым партнером Белоруссии, которая в буквальном смысле слова кормила, одевала и обустраивала быт военных моряков, поставляя сюда все — от картошки до электроники. Что же касается культурно-шефских связей, то она и здесь удерживала лидерство, опекая не только "свою" подводную лодку "Минский комсомолец", но и весь флот.

Популярный композитор Игорь Лученок был столь частым гостем североморцев, особенно подводников, что по праву считается здесь своим человеком. Его песни о Северном флоте вошли в золотой фонд ансамбля песни и пляски КСФ. Несмотря на перипетии последних лет, Игорь Михайлович не отказался от сотрудничества, не забыл своих друзей и готов порадовать их новыми творениями.

Но белорусские гости, надо сказать, мало предавались ностальгии. Оглядываясь на прошлое, они, как деловые люди, скорее искали в нем точку опоры для будущего партнерства. Глава делегации, исполняющий обязанности премьер-министра республики Сергей Линг высказался на сей счет достаточно определенно: хватит стенаний и плача вокруг развала СССР, надо переводить наши чувства в область практической реализации. С ним горячо солидарны и промышленники, которых в составе делегации тоже было немало.

Белоруссия готова хоть сейчас возродить прежние связи, особенно в области поставок продовольствия. Эта тема для моряков сегодня весьма актуальна и болезненна и не случайно стала главной на встрече делегаций с командующим флотом адмиралом Олегом Ерофеевым. Недостаток продуктов питания на кораблях и в частях уже перестал быть военной тайной. Склады, можно сказать, пусты, запас продовольствия в них рассчитан всего на 15—20 суток. Флот с радостью мог бы принять предложения бывших партнеров: надежно, а главное — выгодно. От цен, которые называли гости, у представителей тыла, что называется, дыхание перехватило: они в полтора, а то и два раза ниже российских.

Вполне возможно, что желания, а главное — действия обеих заинтересованных сторон изменят ситуацию и не только в области торговли. Среди офицеров и мичманов флота немало выходцев из Беларуси, кто хотел бы после службы вернуться и жить в родных местах. Для них квартирная проблема и вовсе неразрешима, поскольку существующее положение запрещает флоту вкладывать деньги в строительство жилья за границей. Парадокс, но люди, посвятившие жизнь службе в российских Вооруженных Силах, сегодня лишены прав на благодарность и законные компенсации с их стороны. Этот вопрос пока не обсуждался, белорусские гости оставили его для следующих встреч, но они уверены, что его тоже нужно и можно решать: в конце концов не все зависит только от политиков.

**Ирина СТАЛИНСКАЯ.**

г. Североморск.

# «ЖЫВАТВОРНЫ КРЫЖ ЕФРАСІННІ ПОЛАЦКАЙ ТРЭБА ШУКАЦЬ У РАСІІ»

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

жаль, да гэтага часу пра акалічнасці знікнення гістарычных рэліквій з пакоя-сейфа Магілёўскага абкома партыі даведацца не ўдалося. Каб праясніць што-небудзь у расследаванні, мы пачалі з аднаўлення храналогіі падзей першых дзён вайны.

30 чэрвеня Сталін пазваніў у Магілёў першаму сакратару ЦК КПБ Панцеляймону Панамарэнку і санкцыяніраваў эвакуацыю насельніцтва і матэрыяльных каштоўнасцей. 3 ліпеня па радыё быў аб'яўлены загад Сталіна аб знішчэнні архіваў і каштоўнасцей, якія не паспелі вывезці ў тыл. 8 ліпеня горад пакідаюць работнікі Цэнтральнага Камітэта партыі. 15—16 ліпеня немцы замыкаюць кальцо акружэння савецкіх войскаў у раёне Магілёва.

Асноўнай фігурай у нашай гісторыі працяглы час лічыўся былы дырэктар Магілёўскага гісторыка-краязнаўчага музея Іван Мігулін. Ён быў галоўным хавальнікам рэліквій. Ад яго каштоўнасці незразумелым чынам і "адышлі ў нябыт". Між тым следства паказала, што падазраваць гэтага чалавека ў якіх-небудзь махінацыях з каштоўнасцямі няма падстаў.

***— Чаму прычына прапажы крыжа звязвалася менавіта з супрацоўнікамі органаў унутраных спраў!***

— Размовы аб дачыненні супрацоўнікаў праваахоўных органаў да знікнення гістарычных каштоўнасцей з'явіліся не без падстаў. З дакументальных матэрыялаў стала вядома, што супрацоўнік НКУС Лугаўцоў перавозіў крыж у Магілёў і перадаваў яго пад распіску кіраўніку музея. Трэба думаць, што каштоўнасці, асабліва творы Лазара Богшы, і ў далейшым былі ў полі зроку органаў бяспекі. Аб'ект жа гэты быў спецыфічны.

Расказваючы пазней аб першых днях вайны, былы начальнік Упраўлення НКДБ Павел Чарнышоў паведаміў, што "...з 1 па 9 ліпеня з Магілёва было эвакуіравана некалькі тысяч чалавек цывільнага насельніцтва, дэманціравана і вывезена абсталяванне фабрыкі штучнага валакна, авіярамонтнага завода, каштоўнасці з дзяржаўнага банка, дакументы архіваў і іншых устаноў..."

На жаль, сёння ўжо няма ў каго ўдакладніць, што меў на ўвазе П. Чарнышоў пад "каштоўнасцямі з дзяржаўнага банка". Магчыма, там былі і гістарычныя рэліквіі з пакоя-сейфа, які знаходзіўся ў будынку былога зямельнага банка — цяперашняга абкома. Проста падумалася, што з гэтай установы звычайна вывозяцца грошы і каштоўныя паперы. Зрэшты, у той час работнікі абкома маглі перадаць рэліквіі ў распараджэнне Дзяржбанка. Адпаведна і эвакуіраваць іх маглі як "банкаўскія каштоўнасці" ў суправаджэнні спецыяльнай аховы з аднаго з аэрадромаў пад Магілёвам.

Праясніць сітуацыю ў гэтым плане дапамагла Вера Галубец, якая ў банку некалі займала пасаду загадчыцы асобага аддзела. Праз яе рукі праходзіла ўся банкаўская дакументацыя. Яна адназначна пацвердзіла, што ніякіх залатых ці сярэбраных вырабаў рэлігійна-культавага прызначэння ў той перыяд у банк з іншых устаноў не паступала. У час эвакуацыі з запаснікаў банка вывозіліся толькі грошы — манеты і папяровыя грашовыя знакі.

Калі прытрымлівацца версіі аб дачыненні сілавых структур да знікнення крыжа, можна ўспомніць і аб прыбыцці ў пачатку ліпеня з Масквы ў Магілёў групы работнікаў Наркамата дзяржбяспекі на чале з капітанам Віктарам Пудзіным. У абавязкі групы ўваходзіла тады выкананне "асобага даручэння". Якога? Не выключана, што яе супрацоўнікам даручалася вывезці з магілёўскага пакоя-сейфа скарбы, якія лічыліся прадметамі антыкварнага фонду СССР. Перапісвалі ж у 30-я гады гэтыя гістарычныя рэліквіі прадстаўнікі Эрмітажа, заносячы іх у спецыяльны рэестр. У пачатку вайны яны маглі стаць часткай фонду "золата партыі". А гэта ўжо, згадзіцеся, асаблівы ўлік і кантроль. Гэтыя прадметы павінны былі падлягаць абавязковаму выратаванню ў першую чаргу.

Вельмі хацелася б ва ўсё гэта верыць, аднак далейшыя пошукі паказалі, што хутчэй за ўсё маскоўская група чэкістаў прыбыла ў Беларусь для забеспячэння аператыўнай сувязі і закідвання разведчыкаў у тыл ворага.

Пасля вызвалення горада ў 1944 годзе сталі вядомыя яшчэ некаторыя дадатковыя падрабязнасці, якія ўсё больш ставілі пад сумненне ўдзел супрацоўнікаў органаў дзяржбяспекі ў эвакуацыі каштоўнасцей.

***— Прыведзеная вамі храналогія падзей даволі пераканаўча паказвае, што каштоўнасці, у ліку якіх мог аказацца і крыж Ефрасінні Полацкай, павінны былі ў першыя дні вайны ўдала адбыць на Усход разам з партыйнай маёмасцю. Ці распрацоўвалася гэтая версія!***

— Больш таго, яна здаецца нам найбольш верагоднай. Гэта меркаванне пацвярджае і шэраг акалічнасцей. Галоўная з іх — 20 дзён перадакупацыйнага часу. Ён дазваляў у экстранным парадку правесці эвакуацыю маёмасці, у тым ліку партыйных архіваў, што і было зроблена. Рэліквіі мелі велізарную матэрыяльную каштоўнасць. Аб гэтым добра ведаў і першы сакратар Магілёўскага абкома партыі Іван Макараў, які не раз бываў у пакоі-сейфе і любаваўся старадаўнімі рэліквіямі. Каму, як не першай асобе вобласці, неабходна было паклапаціцца аб вывазе каштоўнасцей, звезеных напярэдадні вайны ў Магілёў практычна з усіх храмаў рэспублікі. А рэліквій было нямала. Яны наўрад ці маглі змясціцца на дзвюх машынах.

***— А ці нельга меркаваць, што крыж Ефрасінні Полацкай усё ж застаўся ў Магілёве і не быў вывезены ў тыл! Такім чынам ён мог дастацца ворагу!***

— Выказваць такую версію можна, аднак сцвярджэнні аб магчымасці рабавання каштоўнасцей фашыстамі выклікаюць грунтоўныя пярэчанні. Варыянт з выразанымі па ўказанню немцаў аўтагенам дзвярыма і рашоткай сейфа адпадае, таму што яны здымаліся з петляў пасля вайны ў першапачатковым выглядзе. Калі дапусціць, што адной з сумна вядомых каманд Розенберга і ўдалося захапіць скарбы, то напэўна засталіся б сляды яе "дзейнасці" — вопісы каштоўнасцей. Трэба аддаць належнае, улік немцамі вёўся скрупулёзна. Аднак у захопленых савецкімі войскамі трафейных дакументах такіх звестак адшукаць не ўдалося. Згодна ж з архіўнымі данымі УКДБ, розенбергаўскім шпікам у Магілёве пажывіцца не было чым. Практычна ўсё было вывезена. Таму ім прыйшлося задаволіцца толькі каштоўнымі кнігамі з гарадской бібліятэкі ды некаторай часткай дзяржаўнага архіва.

***— У гэтым выпадку давайце вернемся да "партыйнай" версіі.***

— Храналогія падзей дазваляе меркаваць, што хутчэй за ўсё каштоўнасці маглі знікнуць са сховішча ў дні, калі праходзіла эвакуацыя маёмасці абкома партыі, — з 1 па 12 ліпеня. Да разгадкі знікнення крыжа Ефрасінні Полацкай, магчыма, зможа нас наблізіць жыхар Магілёва Пётр Паддубскі, які не выключае магчымасці, што менавіта ён на сваёй машыне вывозіў каштоўнасці з абкома ў глыбокі тыл.

Летам 1941 года пасля заканчэння сельскагаспадарчага тэхнікума П. Паддубскі быў прызваны ў армію і служыў у якасці вадзіцеля. Паводле яго слоў, у разгар баёў на подступах да горада ён быў выкліканы да начальніка Магілёўскага гарнізона, які і даручыў забраць каштоўны груз з будынка абкома. Раніцай 13 ліпеня П. Паддубскі падагнаў аўтамабіль па ўказанаму адрасу. Некалькі чалавек у цывільным пачалі загружаць у кузаў мяшкі і пакеты. У акаваную жалезам асобную скрыню ўпакоўваліся найбольш каштоўныя рэчы. Стоячы ля машыны, П. Паддубскі пачуў, як адзін з людзей у цывільным усклікнуў: "Які крыж прыгожы!.." Калі пагрузка закончылася, шэсць супрацоўнікаў НКДБ на чале з маёрам узялі машыну пад ахову. Было загадана ехаць у бок банка. Там дзве машыны загружаліся мяшкамі з грашыма.

Вадзіцель расказаў, што наступнай раніцай калона з трох машын знаходзілася на ўскраіне горада. Там у кабіну да Паддубскага сеў першы сакратар ЦК КПБ П. Панамарэнка. Ён і загадаў рухацца. Машыны пайшлі па маршруту Магілёў—Горкі—Смаленск—Мажайск—Масква. Па шляху руху фашысцкія самалёты не раз бамбілі калону, аднак страт удалося пазбегнуць. "Каштоўнасці нам трэба давезці чаго б гэта ні каштавала", — паўтараў П. Панамарэнка.

Праз двое сутак машыны прыбылі ў Маскву і спыніліся ля будынка Упраўлення кадраў Чырвонай Арміі, што размяшчалася на Ленінскіх гарах. Здаўшы груз, вадзіцелі раз'ехаліся па часцях.

Такім чынам, з вялікай доляй упэўненасці можна сказаць, што каштоўнасці з пакоя-сейфа Магілёўскага абкома знайшлі ў пачатку вайны прытулак у Маскве.

***— Калі гэтая версія правільная, якім, на вашу думку, мог аказацца далейшы лёс гістарычных каштоўнасцей з Беларусі!***

— Многія даследчыкі мяркуюць, што каштоўнасці маглі "сплыць" за акіян па "ленд-лізу" і крыж Ефрасінні Полацкай з таго часу нібыта знаходзіцца ў калекцыі Морганаў. Аднак вядомаму беларускаму вучонаму Адаму Мальдзісу, які вёў пошук крыжа ў прыватных калекцыях ЗША, адшукаць яго не ўдалося. Ды і Інтэрпол, куды мы звярталіся па дапамогу, станоўчага адказу на наша пытанне не даў.

З другога боку, вядома, што былы СССР так і не расплачваўся з саюзнікамі за аказаную дапамогу ў гады вайны. Нават калі і дапусціць, што нейкія "таргі" магілёўскімі скарбамі мелі месца, то перад гэтым яны абавязкова праходзілі б праз вопытнае "вока" экспертаў. І ўжо такія каштоўнасці, як крыж Ефрасінні Полацкай і залатыя ўпрыгажэнні з раскопак Пампеі, з прычыны іх вялікай гістарычнай каштоўнасці наўрад ці сталі б упрыгожваць заходнія калекцыі.

Пакуль, на жаль, не аб'явілася ні адна з "магілёўскіх" рэліквій. Таму не выключана, што іх цяперашні лёс можа быць звязаны з Дзяржаўным Эрмітажам Расійскай Федэрацыі ці музейнымі запаснікамі Уфы і Самары, дзе знайшлі прытулак у час вайны архівы Магілёўскага абкома партыі.

Неабходнасць пошуку каштоўнасцей з Магілёўскага збору на тэрыторыі Расіі не выклікае сумненняў. У гэтым плане абнадзейвае нядаўна прыняты Дзярждумай Расіі Закон аб культурных каштоўнасцях... Хочацца выказаць надзею, што, дзякуючы прынятаму закону, усходняя суседка будзе гатова вярнуць тое, што было вывезена ў першыя дні вайны і з Беларусі. Стала больш рэальнай надзея, што расійскія вучоныя дапамогуць у пошуках жыватворнага крыжа Ефрасінні Полацкай і вяртанні гэтай беларускай нацыянальнай святыні на радзіму.

## У ПРАЕКЦЕ — БЕЛАРУСКІ МАНЕТНЫ ДВОР

# ПЯРСЦЁНАК З БРЫЛЬЯНТАМ

Пачатак ювелірнай вытворчасці ў Беларусі адносіцца да 1993 года. У той час у гомельскага аб'яднання "Крышталь" справы ішлі нядрэнна, і фінансавы стан прадпрыемства дазваляў укладваць сродкі ў развіццё новых вытворчасцей. Потым аб'яднанне трапіла ў цяжкае фінансавае становішча, змянілася кіраўніцтва, пачаліся пошукі выхаду з крызісу, і было вырашана падзяліць аб'яднанне на асобныя вытворчасці. Так была створана самастойная вытворчасць "Ювелір".

У 1996 годзе "Ювелірам" выпушчана прадукцыі на суму 12 247 мільёнаў рублёў, і на першае студзеня 1997 года асвоена 105 назваў ювелірных вырабаў — пярсцёнкі з устаўкамі з брыльянтаў, завушніцы і падвескі. Развіццё беларускай ювелірнай вытворчасці ідзе па наступных накірунках: вырабы з золата з устаўкамі з брыльянтаў, вырабы з фініфці з філіграннью, а таксама посуд.

На сёння ў Політэхнічнай акадэміі пачата падрыхтоўка спецыялістаў — тэхнолагаў па ювелірнай і брыльянтавай вытворчасці, якія закліканы дапамагчы "Крышталю" і "Ювеліру" вырашыць праблему з кадрамі.

Аб'яднанне ўжо двойчы прымала ўдзел у міжнародных ювелірных кірмашах, якія штогод праводзяцца ў Маскве, і калі на першым з іх стэнды прадпрыемства выглядалі даволі бедна, то другі раз, на выставе "Ювелір-96", яны ўжо прыцягнулі ўвагу прафесіяналаў. Гэта было даволі складана, таму што ў рабоце кірмашу прымалі ўдзел дзвесце фірм з усяго свету. Трэба адзначыць, што сёння на ювелірным рынку СНД існуе досыць высокая канкурэнцыя, паколькі на тэрыторыі былога СССР ювелірных заводаў было нямала, дастаткова назваць Малдавію, Украіну, Арменію, Расію з цэнтрамі ў Екацярынбургу, Санкт-Пецярбургу і Маскве. У апошні час з'явілася многа новых, выдатна аснашчаных самай перадавой тэхналогіяй прадпрыемстваў.

Іх заўважылі, адразу быў падпісаны шэраг кантрактаў, прычым, менавіта з расійскімі спажыўцамі.

Галоўная праблема гэтай вытворчасці — забеспячэнне сыравінай. Яна вырашаецца дзякуючы вельмі адчувальнай дзяржаўнай падтрымцы. Варта ўспомніць 259 Указ Прэзідэнта, накіраваны на падтрымку гомельскага аб'яднання "Крышталь" увогуле і, у прыватнасці, вытворчасці "Ювелір", а таксама нядаўнюю пастанову ўрада, якая дазваляе адпускаць у 1997 годзе з Дзяржхрана Рэспублікі Беларусь буйныя партыі золата з вельмі вялікай адтэрміноўкай плацяжу. "Крышталь" вызвалены ад увазных таможных пошлін, аднак становішча прадпрыемства такое, што яно не змагло нават выкарыстаць гэтую льготу, такім цяжкім для яго з'яўляецца падатак на дабаўленую вартасць. Сёння цана на золата і каштоўныя камяні на рынку не зведвае сур'ёзных хістанняў, і прыбытак у брыльянтавай вытворчасці складае 15—18 працэнтаў ад першапачатковага кошту сыравіны. Калі ўлічыць, што падатак, які даводзіцца плаціць пры куплі сыравіны, складае 20 працэнтаў, то даходы прадпрыемства будуць у лепшым выпадку роўныя нулю. Лішне гаварыць, што "Ювелір", з'яўляючыся часткай "Крышталя", апрацаваныя брыльянты атрымлівае непасрэдна адтуль.

Такія меры накіраваны на стварэнне льготных умоў для дзяржаўнай вытворчасці ў параўнанні, скажам, з прыватнымі ювелірнымі майстэрнямі, існаванне якіх у сувязі з высокім коштам сыравіны, якая набываецца імі без ільгот, уяўляецца вельмі праблематычным.

Што тычыцца дызайна беларускіх упрыгажэнняў, то ён пакуль вельмі традыцыйны. У вырабах відаць спроба ўключаць элементы беларускага арнаменту, імкненне да своеасаблівасці за кошт выкарыстання нацыянальных матываў. Пераважная большасць вырабаў, што выпускаюцца "Ювелірам", утрымліваюць устаўкі з брыльянтаў, бо яны адразу намнога павялічваюць кошт вырабу.

Трэба адзначыць, што ў апошні час на рынку ювелірных упрыгажэнняў попытам карыстаюцца ці вельмі танныя вырабы, якія дазваляюць сабе набываць небагатыя людзі, ці, наадварот, вельмі дарагія з устаўкамі з буйных дарагіх камянёў, якія купляюцца, каб укласці сродкі.

На прадпрыемстве "Ювелір" рыхтуюцца выпускаць дзяржаўныя ўзнагароды Рэспублікі Беларусь, якія будуць вырабляцца з каштоўных металаў. Гэта ордэн воінскай славы, ордэн Кастуся Каліноўскага, ордэн Францыска Скарыны, ордэны "Айчыны" 1, 2, 3 ступеняў, а таксама зоркі Героя Рэспублікі Беларусь. (Праўда, на сёння афіцыйна зацверджаны толькі дзве з пералічаных узнагарод). Плануецца стварэнне на базе вытворчасці "Ювелір" беларускага манетнага двара. На сёння Нацыянальны банк заказ на выраб беларускіх манет размясціў у Польшчы. І гэта не дзіўна, таму што беларускаму "Ювеліру" ўсяго чатыры гады, у той час як польскі манетны двор налічвае каля двухсот гадоў.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

# КАЛІ ПЕСНЯ ЖЫВЕ БЕЛАРУСА — БУДЗЕ ЖЫЦЬ БЕЛАРУСКІ НАРОД...

24 сакавіка 1922 года Цэнтральнае Бюро КП(б)Б разгледзела пытанне "Дело Терравского". Пастанавілі наступнае: "Считая освобождение Терравского несвоевременным, ходатайство отклонить". На жаль, ніякіх іншых звестак пра гэта знайсці ў архіве не ўдалося. Хто хадайнічаў перад ЦБ — невядома. Зразумела, гэта былі сябры, паплечнікі, беларускія працаўнікі. Яны не забываліся пра вязня, і ў газеце "Савецкая Беларусь" часта на працягу ўсяго перыяду высылкі ўспаміналася імя Тэраўскага.

У той самы дзень, 24 сакавіка, у газеце паведамлялася аб ушанаванні Янкі Купалы. "Дэкламацыя і спевы — музыкі У. Тэраўскага, — падкрэсліваў аўтар Я. Журба, — складаліся выключна з твораў Я. Купалы". Гэта была даніна павагі знакамітаму хормайстру. Аналагічныя паведамленні былі ў верасні (пра выступленне хору БДТ-1 пры зачыненні беларускіх курсаў), і ў снежні (у паведамленні пра размеркаванне падручнікаў). А трохі раней, у лютым 1922 года, у раздзеле "Паштовая скрынка" газета надрукавала надта смелае па тым часе паведамленне: "Масква. Сябру Грабоўскаму. У адказ на ваша запытанне рэдакцыя паведамляе, што спевы Тэраўскага, якія былі надрукаваны, разыйшліся; ненадрукаваныя ж знаходзяцца ў яго ўласным распараджэнні. Дакладнага адрасу Тэраўскага паведаміць ня можам, бо ён заарыштован і вывезен у Смаленск". Дарэчы зазначыць, што адказным рэдактарам "Савецкай Беларусі" быў нарком асветы ССРБ Усевалад Ігнатоўскі.

Напамінак пра Тэраўскага прагучаў і ў часопісе "Полымя". У снежні 1922 года выйшаў яго першы нумар, у якім з рэцэнзіяй на песеннік "Беларускі лірнік" выступаў удзельнік хору К. Пуроўскі. Рэцэнзент адзначаў, што кніжка мела "вельмі пекны выгляд". "У кожнай мелодыі, гэтак дэтальна захаванай пры гарманізацыі Тэраўскім, адбіваецца той ці іншы настрой душы селяніна. Мастацкая, хоць і простая, адпавядаючая асаблівасцям беларускіх мело-



дый гарманізацыя з'яўляецца як бы пекнай рамкай, дзякуючы якой больш яскрава выдзяляецца малюнак з жыцця беларускага народа".

У заключэнне К. Пуроўскі, быццам гаруючы аб няшчаснай долі аўтара "Лірніка", пісаў: "Плача, горка плача яго песня, ус-памінаючы цяжкія гадзіны мінуўшчыны..." І прадаўжаў: "...Але ж і аб будучыні яна ўрачыстым гімнам гучыць. Гэта сведчыць аб тым, што жыве і будзе жыць беларускі народ і яго культура".

А ў лістападзе 1922 года, пасля адкрыцця тэатральнага сезона, дапісчык "Савецкай Беларусі" задаваў пытанне: "Чаму змоўк беларускі хор? Дзе захаваны багаты цыкл беларускіх народных песняў, якія так падабаліся публіцы і выдзяляліся сваёй самабытнасцю, настраёвасцю і харaством?"

І яшчэ пра тое ж. У вялікім артыкуле "З жыцця студэнтаў-беларусаў г. Масквы" газета "Савецкая Беларусь" 20 лютага зноў напамінала: "Беларускі студэнцкі хор пад кіраўніцтвам Янкі Грабоўскага... выпаўняе выключна беларускія народныя песні, гарманізаваныя Ул. Тэраўскім".

У віленскай газеце "Наш сцяг" 5 жніўня, калі Тэраўскі быў на свабодзе, азваўся даўні сябра Макар Краўцоў, аўтар гімна "Мы выйдзем шчыльнымі радамі". У рэцэнзіі на "Лірнік" ён пісаў, што аўтар у прадмове паабяцаў у хуткім часе выдаць новы зборнік, "але гэты хуткі час не даў дасюль нічога; мусі дзякуючы таму, што паважаны аўтар пэўны час змушаны быў правесці ў ссылцы ці ў палажэнні арыштанта".

На шчасце, поўнага тэрміну зняволення У. Тэраўскі не адбыў. Дапамог шчаслівы выпадак: рыхтавалася Усесаюзная сельскагаспадарчая выстава ў г. Маскве. Беларусь павінна была дэманстраваць на ёй дасягненні і "торжество" савецкай нацыянальнай палітыкі. У. Тэраўскі вярнуўся ў Беларусь недзе ў сярэдзіне 1923 года. Ужо ў ліпені разам з Міхасём Мялешкам ён выехаў на збор экспанатаў і этнаграфічных матэрыялаў у Ігуменскі павет, а 3 жніўня 1923 года газета "Савецкая Беларусь" паведаміла, што "ў самым хуткім часе вядомы беларускі хор пад кіраўніцтвам Ул. Тэраўскага наладзіць вялікі канцэрт. Падрыхтоўка ўжо пачалася". Гэта была радасная навіна для ўсіх прыхільнікаў беларушчыны.

25 жніўня ў друку паведамлялася пра ўдзел Беларускага дзяржаўнага хору і тэатра ў адкрыцці Усесаюзнай сельскагаспадарчай выставы. На долю хору У. Тэраўскага выпала шчасце дэманстраваць беларускую песню ў Маскве. Вялікае зацікаўленне выклікала нацыянальная вопратка, дудар, лірнік і цымбалы. Хор стараліся сфатаграфаваць, за ім хадзілі ўслед па тэрыторыі павільёна, запрашалі для выступленняў на прадпрыемствах.

Рэпартажы для мінскіх газет з Масквы дасылалі А. Александровіч, М. Маразоўскі і іншыя. Яны стараліся перадаць той высокі, узнёслы настрой, які быў у харыстаў, акцёраў, іншых удзельнікаў сельскагаспадарчай выставы, а таксама і ў гледачоў.

Вось некалькі ўрыўкаў з гэтых рэпартажаў:

"Закруціліся ручкі кінематаграфічных апаратаў, зашчоўкалі фатаграфічныя апараты, замільгалі алоўкі па блакнотах замежных журналістаў. А тысячны натоўп стаяў і слухаў..."

"Праграма багатая, выкананне ўдалае і поспех надзвычайна вялікі..."

"У Нясхучным садзе пяе наш хор пад кіраўніцтвам Тэраўскага. Тут жа на змену пяюць і ўкраінцы і вялікаросы. Але як пяюць нашу "Бульбу", ці "Лявоніху", ці што другое, дык публіка плешча і крычыць "брава" больш як другім.

А дзед Лірнік з сваімі хватаючымі за сэрца спевамі наганяе думкі і часамі выціскае з дзявочага вока слязу..."

"Зычныя струны цымбалаў прымушаюць грамады экскурсантаў цікавіцца і, абы толькі струны зазвінелі, — слухаць. Імя працоўнай Беларусі шумнаю хваляй расплывае на вялікім абшары ўсяго свету".

Гэта наогул быў тады першы ў многавяковай гісторыі беларускай культуры выезд тэатра і хору ў Маскву і паказ там сваіх творчых дасягненняў. Апрача штодзённых канцэртаў хору (больш за трыццаць) паказаны былі там і музычныя спектаклі "На Купалле" і "Машэка" — у Замаскварэцкім тэатры, у клубе былой Прохараўскай мануфактуры і ў іншых рабочых клубах сталіцы. Самым хвалюючым для калектыву было выступленне яго ў Крамлі, у крамлёўскай тэатральнай зале, дзе прысутнічалі і члены саюзнага ўрада. Апрача спектакляў там быў дадзены і самастойны канцэрт хору.

Як паведамляў А. Александровіч, "пры выездзе з Крамля грамады кідалі кветкі беларускім артыстам, раздаваліся радасныя крыкі і запросіны яшчэ".

М. Маразоўскі, падкрэсліваючы заслугі Тэраўскага, пісаў: "Беларуская музыка перажывае цяпер такі момант, калі яна выходзіць з межаў Беларусі і становіцца агульнакультурнай каштоўнасцю, далучаецца да агульначалавечай музыкі".

Нехта П. Сокалаў у той жа "Савецкай Беларусі" падкрэсліваў:

"Нельга не адзначыць, што песня беларуская, у працягу месяца гучэўшая ў Маскве, літаральна захапляла слухачоў сваёй гармоніяй то глыбокага суму, то сардэчнасці, то радасці, то дзіцячай прастаты, то прыяцельскай жартаўлівасці, то, нарэшце, вострай іроніі".

"Маскоўскія газеты адкрылі беларускае мастацтва — надзвычай свежае, музычна непасрэднае, нацыянальна своеасаблівае. Маладыя, не кранутыя штампам, натхнёныя акцёры пакарылі сэрцы гледачоў", — пісаў пазней Я. Рамановіч.

Не толькі маскоўскія тэатральныя і музычныя крытыкі высока ацэньвалі творчыя дасягненні беларусаў, але і замежныя карэспандэнты, у тым ліку і амерыканскія, паведамілі свету аб існаванні беларускай культуры.

Многа артыкулаў прысвяціў Беларускаму тэатру маскоўскі тэатразнаўца Хрысанф Херсонскі (член-карэспандэнт Інстытута беларускай культуры). Ён выдзяляў яго сярод іншых калектываў Мінска: "Яго глеба — прабуджаючаяся працоўная Беларусь. Корань тэатру, хаця і маладым, даў толькі першыя расткі, але зрабіў на мяне ўражанне здаровага і жыццяздольнага...

Беларуская народная паэзія з яе драматычнымі элементамі, народныя звычаі, спевы, скокі, з'явы, забаўнікі, батлейка — прымітыўная народная драма; асабістыя народныя музыкальныя інструменты; урэшце — развіццё беларускае народнае паэзіі і драматургіі "мужыцкіх" паэтаў — вось адкуль трэба пераймаць першыя элементы для нацыянальнага беларускага тэатру".

Аўтар раскрываў задачы, шляхі дасягнення акрэсленага нацыянальнага характару і ў заключэнне выказваў упэўненасць у хуткім яго росце і моцы, паколькі "ў яго мастацкіх сродках... столькі жыццяздольнасці, глыбокае народнасці, актыўнасці, талентнасці".

Наведаўшы Беларускі тэатр яшчэ ў лютым 1923 года, Х. Херсонскі пісаў: "На спектаклях "На Купалле" і "Машэка" на мяне паліўся паток надзвычайных у радавым тэатры вясенніх уражанняў — жыццерадаснасць, яшчэ жывучы непасрэдны рамантызм, некая захапляючая, уся танцуючая музыкальнасць, сонечнасць... П'еса "На Купалле" чула адбівае нацыянальны настрой. У асаблівасці характэрна гэта агульнае шуканне ўсімі дзеючымі асобамі сваёй "кветкі шчасця" — свайго адраджэння... Гэты парыў, вядома, зробіцца сталым, і Беларускі тэатр будзе мець п'есы, дзе "мужыцкі народ, які прачынаецца, загаворыць аб сабе ўжо ва ўвесь голас..."

Свае артыкулы Х. Херсонскі змяшчаў не толькі ў газеце "Савецкая Беларусь", але і ў маскоўскім часопісе "Красная Нива", газеце "Известия". Ён вельмі прыхільна адносіўся да беларускай нацыянальнай справы, лічыў Мінск асяродкам беларускага адраджэння.

Не абмінуў маўчаннем Х. Херсонскі выступленне Беларускага тэатра і хору на сельскагаспадарчай выставе ў Маскве. У газеце "Известия" за 7 верасня ён змясціў рэцэнзію пад загалоўкам "Кветка шчасця", у якой зазначыў: "Аснаўны матыў творчасці Беларускага тэатру сімвалічна выканаы ў п'есе маладога папулярнага беларускага паэта М. Кудзелькі — "На Купалле" (музыка Тэраўскага). Гэта — шуканне сваёй "кветкі шчасця", якім у больш шырокім зразуменні жыве цяпер увесь беларускі народ. Жыццёвая радасць, музыкальнасць, моладасць насычаюць беларускі тэатр той псіхічнай асновай, дзякуючы якой ён карыстаецца такім поспехам..."

**Аляксандра ГЕСЬ,**
**Уладзімір ЛЯХОЎСКІ.**



**НА ЗДЫМКАХ: Марыя ЗУБКОЎСКАЯ (КІПЕЛЬ), харыстка Беларускага хору У. Тэраўскага. 1919; Беларускі дзяржаўны хор пад кіраўніцтвам У. ТЭРАЎСКАГА (сядзіць у другім радзе пяты справа) пры Беларускім дзяржаўным тэатры. Красавік 1921 года.**

**Працяг.**
**Пачатак ў №№ 8—11.**



**Віцебскі мастак Юрый Чарняк стварыў макет дома-музея Марка Шагала. Яго адкрыццё плануецца ў ліпені, калі сусветная грамадскасць будзе святкаваць 110-ю гадавіну з дня нараджэння выдатнага мастака.**

**НА ЗДЫМКАХ: Юрый ЧАРНЯК знаёміцца з экспазіцыяй будучага музея; дом Марка Шагала ў Віцебску.**

**Фота Аляксандра ХІТРОВА.**



# «АМЕТЫСТ», «ТАПАЗ», «СМАРАГД» ДЫ ІНШЫЯ



(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

"мальцаўскай гранню". У арсенале мастацкіх сродкаў мастакоў СССР па апрацоўцы шкла гэтыя метады былі ў той час асноўнымі. Але новыя павевы ў стылях мастацтва патрабавалі наватарства ў мастацкім шкле. І Галіна Анатольеўна была тады наватарам. Яна чуйна рэагавала на новыя плыні і напрамкі, што складваліся ў савецкай архітэктуры (да 1957 года яна працавала на факультэце архітэктуры Беларускага політэхнічнага інстытута) і мастацтве канца 50-х гадоў, і таму разумела, што неабходна шукаць новыя сродкі мастацкай выразнасці ў шкле, адпаведныя новаму функцыянальна-рацыянальнаму стылю. Вобразнасць яе твораў ужо тады ішла ад рэаліяў прыроды, якія хвалююць пейзажыста. І гэта адлюстравалася ў яе творах, скамплектаваных з функцыянальных дэкаратыўных пасудных форм пад назвамі "Рэпка", "Сіні вечар", "Ночка сіняя", "Ружовы вечар".

Ужо ў пачатку свайго творчага шляху Ісаевіч імкнулася выяўляць каляровую прыгажосць і каштоўнасць самога шкла як матэрыялу. Яно выраблялася разнастайных колераў, таноў і адценняў пад адпаведнымі назвамі: "аметыст", "тапаз", "рубін", "смарагд". На думку мастачкі, гэтыя віды каляровага шкла маглі спаборнічаць з каштоўнымі і паўкаштоўнымі мінераламі. Таму ў туалетных прыборах з такімі ж назвамі, якія яна стварыла ў 1957 годзе, і вазах "Бэзавая", "Рубінавая", "Чырвоная кветка" мастачка скарыстала класічную (вядомую яшчэ з XVIII стагоддзя) шырокую грань. Яна дасягала тым самым класічных прапорцый і высокай чысціні форм канічных і кроплепадобных, а шырокая грань падкрэсліла колеравую блізкасць такога шкла да натуральных каштоўных рубінаў, аметыстаў, тапазаў, смарагдаў. Гэты прыём дапамог раскрыць каляровае багацце шкла, якое было ёй блізкае як жывапісцу. Менавіта гэтыя мастацкія знаходкі прынеслі міжнароднае прызнанне таленту Ісаевіч. У 1958 годзе на Міжнароднай выставе ў Бруселі ЭКСПО-58 яе туалетны прыбор "Аметыставы" быў адзначаны бронзавым медалём, а мастацкае шкло Савецкай Беларусі ўпершыню атрымала міжнароднае прызнанне.

У пачатку 60-х на "Нёмане" пачалі варыць шкло з новымі колеравымі ўласцівасцямі — апалавае і сульфідна-цынкавае. І Галіна Ісаевіч адразу ж стварае з яго прыгожыя вазы і посуд. Асабліва ўдалым атрымаўся прыбор для лікёру з апалавага (г. зн. ледзь замутнёнага празрыстага) шкла, якое нагадвае стан прыроды пад назвай "бялёсы туман". Ён быў адзначаны сярэбраным медалём на ВДНГ СССР, і гледачы ўбачылі прыбор на гэтай выставе. Тут жа можна былоназіраць і вузкую цыліндрычную вазу "Фантазія", і шырокіх цыліндрычных форм прыборы для кампоту "Яблык" і "Абрыкос", аздобленыя сульфідна-цынкавым шклом.

Вельмі ўдала выкарыстала Г. Ісаевіч і дэкарыраванне шкла рознакаляровымі люстрамі, якія надаюць шклу пастэльна вытанчаныя ружова-блакітна-залацістыя адценні. Глядач убачыў прыбор для віна "Пірамідка", які атрымаў прэмію на Рэспубліканскім конкурсе сувеніраў у 1966 годзе. Вабяць гледача яе вазы і розныя прыборы з бясколернага ці каляровага шкла, аздобленыя ляпнымі дэкорамі, якія далі магчымасць стварыць посуд з пэўнымі рысамі выяўленчай вобразнасці: дэкаратыўныя наборы "Матрошкі", "Раніца", "Красавік" і прыбор для пуншу "Пастараль".



Галіна Анатольеўна развівала тэму святочнага посуду, які павінен быў упрыгожыць стол і стварыць адпаведны святочны настрой. Яна знаходзіла эфектны прыём спалучэння гладкага выдзіманага шкла з тактоўна ўжытымі каляровымі плямамі і ляпнымі дэталямі. Апошнія адначасова выконвалі функцыянальную ролю — з'яўляліся ручкай чашы, ухватам накрыўкі графіна і г. д.

З сярэдзіны 60-х гадоў мастачка ўжывае выяўленчую вобразнасць на крышталёвых вырабах, наносячы рысункі нібы разцом. Сродкам тэхнічнай выразнасці Галіна Анатольеўна абрала алмазную і заваленую грань. Гэтым метадам яна стварыла шэраг унікальных твораў не толькі лірычна-паэтычнага зместу, прысвечаных прыродзе, як прадстаўленыя на выставе дэкаратыўныя наборы "Залаты колас" і "Цюльпан", але і з грамадзянскай тэматыкай у дэкаратыўных кампазіцыях, утвораных з розных форм посуду, як, напрыклад, "Квітнеючая Беларусь".

Для адлюстравання стану прыроды (а Галіну Ісаевіч яна заўжды вабіла як мастака-пейзажыста) больш пасавала тэхніка гутнага формаўтварэння і дэкарыравання вырабу (гэта значыць выдзімання і дэкарыравання посуду не адыходзячы ад гарачай гутнай печы). Таму мастачка адначасова працавала ў розных тэхніках, у залежнасці ад таго, якую задачу яна перад сабой ставіла.

Галіна Анатольеўна ў крышталі заўжды карысталася выяўленчай вобразнасцю, але ў 1981 годзе яна стварыла значныя кампазіцыі з асацыятыўнай вобразнасцю, якія сталі новым этапам у яе творчасці. Маюцца на ўвазе кампазіцыі "Вечаровая мелодыя", "Радасць Перамогі", "Слава герaічнаму Мінску", "Ліпеня радасныя дні". "Вечаровая мелодыя" ўяўляе новы варыянт скарыстання такіх звычайных для шкла геаметрычных форм, як конус і шар, але ўжо ў спалучэнні каляровага шкла з крышталёвым. Кампазіцыя будуецца амаль на музычным рытме размяшчэння рознай вышыні кубкаў, чашы і паддоны якіх асацыіруюцца з музычнымі старажытнымі ражкамі і сучаснымі трубамі. Здаецца, крышталь меладычна загучыць, калі суадносна пабудаваным мастаком вертыкальным рытмам дакрануцца да кубкаў хаця б драўлянай палачкай. Ззяючыя алмазнымі гранямі крышталёвыя кубкі ў спалучэнні з гладкімі празрыста-сінімі выклікаюць асацыяцыі мілагучнай мелодыі, якая ціха разліваецца сярод сініх вечаровых прыцемкаў.

Галіна Ісаевіч унесла значны ўклад у фарміраванне беларускай школы мастацкага шкла, якая складвалася на працягу 60-х—70-х гадоў. Яна была ініцыятарам стварэння новага стылю ў беларускім мастацкім шкле, падтрымлівала ў гэтых намаганнях маладых мастакоў, якія пачалі працаваць на заводах з 1959 года. Як галоўны мастак цэлай галіны мастацкай прамысловасці, Галіна Ісаевіч распрацоўвала яе мастацкі накірунак, і мастакі актыўна супрацоўнічалі з ёю. Яна карысталася ў іх павагай і аўтарытэтам. Многія з іх не губляюць з ёю сувязь і цяпер, калі яна на пенсіі.

У пачатку сваёй дзейнасці менавіта Г. Ісаевіч прынесла беларускаму мастацкаму шклу міжнароднае прызнанне ў 1958 годзе ў Бруселі. Новыя міжнародныя ўзнагароды ў Яблонцы-на-Нісе (ЧССР) атрымалі творы майстроў і мастакоў шклозавода "Нёман" у 1973 годзе (А. Федаркова і У. Жохава), у 1979 годзе (У. Мурахвера). Значыць, новы стылістычны напрамак у развіцці беларускага мастацкага шкла быў абраны правільна галоўным мастаком гэтай галіны прамысловасці, калі мастацкае шкло Беларусі выйшла на высокі міжнародны ўзровень.

**Мая ЯНІЦКАЯ.**

**НА ЗДЫМКАХ: дэкаратыўны набор "Вячэрняя мелодыя"; дэкаратыўная кампазіцыя "Сапфір".**

**Фота Віктара СТАВЕРА.**

# УСКОПВАЮЧЫ ДЗЕДАЎСКІ ДРЫВОТНІК...

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

527 актыўных членаў. Займаючыся арганізацыйнай працай, кіруючы газетай "Савецкая Беларусь", будучы ўдзельнікам такіх прадстаўнічых органаў, як ЦК КП(б)Б і ЦВК БССР, Чарот не забываецца пра ўласную творчасць: піша п'есы, вершы, апавяданні, аповесці, ездзіць па Беларусі, расказвае пра свае вандроўкі ў дарожных нарысах. Надараецца час — наведваецца і ў Рудзенск. Адтуль жа, з Рудзенска, з блізкай Цітвянскай школы, пачаткі, вытокі рамантычнай і багатай на вобразы творчасці. Лёс "чырванакрылага вешчуна" — агромністая, непрачытаная кніга. Хто і калі здолее перагарнуць усе яе старонкі?

Калі ўжо згадалі Цітвянскую школу, то варта заўважыць, што яна — калыска-пястуха трох паэтаў: акрамя Міхася Чарота, тут вучыліся Уладзімір Хадыка і Рыгор Папар. Выпадак выключны, не кожная мясцовасць такую паэтычную аўру выпраменьвае. Далёка не кожная...

Уладзімір Хадыка (1905—1940) нарадзіўся ў вёсцы Цітва. Пасля школы закончыў агульнаадукацыйныя курсы ў Мінску (1923). Настаўнічаў, працаваў сакратаром Цітвянскага сельсавета. З 1929 года жыў у Мінску. Уладзімір Хадыка, пэўна, як не многія з яго пакалення (мо падобна хіба што Аркадзю Моркаўку, і толькі), страшэнна цяжка перажываў перамены, што адбываліся на вёсцы, перамены, што патрабавалі "бурапеннасці" паэзіі. Міхась Стральцоў праз дзесяцігоддзі напіша пра паэта: "Ул. Хадыка менш за ўсё спакушаўся воклічным, публіцыстычным вырашэннем балючай для яго тэмы. З яго вершаў пачатку трыццатых гадоў паўстае складаная гама пачуццяў чалавека, які не бяздумна перажывае "вялікі пералом" у вайсковым жыцці, усё яшчэ блізкім яму, ужо гараджаніну, — тут і спроба задушыць у сабе ўспамін пра вёску ("Скрухі старая плойма згіне, спадзе, забудзецца") і знарачытая гаворка пра вёску як нешта пазбытае, пераадоленае: "Мой смутак навекі сатлеў" і г. д. Драматызм жывога чалавечага перажывання правяраецца потым цвярозай развагай пра мінулае вёскі, пра свае спадчынныя карані:

**Ўскапаю дзедаўскі дрывотнік,**
**Па каліву перабяру...**

І нават "абмылка" — "у вайсковым" (трэба чытаць: у вясковым) — у публікацыі стральцоўскай прадмовы да прачытання паэзіі Уладзіміра Хадыкі бачыцца невыпадковай. Такі быў строгі, амаль вайсковы час. Хадыка стараўся вытрымліваць усе бядоты, згрызоты, няшчырасці. І амаль што вытрымаў. Таму, відавочна, і стаў ахвярай — 26 лістапада 1936 года быў арыштаваны. 5 кастрычніка 1937 — асуджаны на 10 гадоў пазбаўлення волі. Пакаранне адбываў у Іванаўскім і Марыйскім лагерах. Загінуў у снежні 1940 года на будоўлі чыгункі каля Улан-Удэ.

Як помнік радзімай старонцы засталіся вершаваныя радкі Уладзіміра Хадыкі:

**Не, не веру, брат, я,**
**каб была прыгажэй**
**Па пякноце сваёй**
**Швейцарыя!..**
**Паглядзі толькі ты,**
**прыглядзься бліжэй**
**Вокам ясным на сіні-абшары.**

**Ўсё смяецца, пяе, нібы**
**ў казцы якой,**
**На шаўковае кліча ўлонне...**
**Паміж красак, кустоў —**
**над змяістай ракой**
**Сонца ласкава грае**
**ў бяздонні.**

Рудзенск — і радзіма вядомай сучаснай літаратаркі Таісы Бондар. Паэт, празаік. Дзесяты клас заканчвала ў школе рабочай моладзі. У гэты ж час працавала швачкай, потым старшай піянерважатай Рудзенскай сярэдняй школы. Таіса Бондар — аўтар паўтара дзесятка кніг прозы і паэзіі. Зараз пісьменніца працуе галоўным рэдактарам часопіса "Всемирная литература".

Літаратурную гісторыю Рудзенска дапаўняюць лёсы тых пісьменнікаў, якія ў розны час тут працавалі. Сапраўдным гняздом паэтаў можна назваць рэдакцыю рудзенскай раённай газеты "Бальшавіцкі сцяг" (пасля вайны яна змяніць сваю назву на "Рудзенскую праўду"). У самы пярэдадзень вайны ў рудзенскай раённай газеце працаваў Міхась Пянкрат. Пасля і партызаніў будучы пісьменнік таксама ў пухавіцкіх і блізкіх да Пухаўшчыны лясах.

"Рудзенская праўда" выхоўвала, задавала творчы настрой, экзаменавала на талент публіцыста і празаіка Сцяпана Кухарава. У Рудзенску Сцяпан Кухараў працаваў у 1952—1953 гадах адказным сакратаром "раёнкі". Але ж прыцягненне да Рудзеншчыны, Пухаўшчыны ў Сцяпана Іванавіча захавалася на ўсё жыццё. Многія нарысы, апавяданні пісьменніка змешчаны ў калектыўных зборніках (здаецца, ці не ў дваццаці), і ў большасці твораў прысутнічае повязь з Пухаўшчынай.

"Рудзенская праўда" — гэта і прыстанішча паэта, перакладчыка Кастуся Цвіркі.

Асаблівая старонка ў гісторыі, літаратурнай біяграфіі Рудзеншчыны і Пухаўшчыны — жыццё, творчасць Хвядоса Шынклера. У сучасных даведніках пра нараджэнне пісьменніка гаворыцца наступнае ці прыблізна наступнае: "...Нарадзіўся 22.9.1903 г. на станцыі Ізяслаў (цяпер Беларусь) Мінскага раёна Мінскай вобласці ў сям'і чыгуначніка".

Але ж гэта — у сучасных даведніках, у сучасных энцыклапедыях. Варта ж адкрыць вокладку манаграфіі Лідзіі Арабей "Хвядос Шынклер", як паўстае зусім іншая ісціна: Хвядос Шынклер нарадзіўся ў Рудзенску. Вядомая справа, мяне зацікавілі крыніцы, згодна з якімі даследчыца асвятляла жыццяпіс пісьменніка. На шчасце, Лідзія Арабей жыве і працуе ў Мінску, цяжкасцяў пагутарыць з ёю ніякіх не існуе. Лідзія Львоўна карысталася пісьменніцкай біяграфіяй, сустракалася з сям'ёй загінуўшага на фронце Хвядоса Шынклера. Ніякіх сумненняў ні ў кога Рудзенск як месца нараджэння пісьменніка не выклікаў. Вядома і тое, што, пачынаючы з 1919 года, Хвядос Шынклер працаваў на чыгунцы тэлеграфістам, пасля — бібліятэкарам, загадчыкам клуба ў Рудзенску. Першае апавяданне празаік надрукаваў у 1929 годзе. Да пачатку Вялікай Айчыннай выдаў шэсць кніг. Тройчы творы Хвядоса Шынклера выдаваліся ўжо пасля смерці пісьменніка. Галоўная тэма яго прозы — чыгуначнікі, іх працоўныя клопаты. У гэтым памкненні літаратар — паплечнік Міхася Лынькова. Прыгожа сказаў пра Шынклера Барыс Мікуліч: "Это был скромный, милый человек, который и шутил всегда мягко и застенчиво, всегда внимательно относился к товарищам и так же прислушивался к их замечаниям..."

Рудзенск — значная кропка на літаратурнай карце Беларусі. І з часам, магчыма, пабольшае пісьменніцкіх імёнаў, чые творчыя і жыццёвыя біяграфіі пераплятуцца з Рудзенскам, яго ваколіцамі. Ужо зараз часта бываюць у гэтых мясцінах паэты Казімір Камейша, Алесь Пісьмянкоў. Тут іх лецішчы, тут яны пішуць свае новыя творы.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

# «А Ў НАС БЫЛА МАСЛЕНКА...»



На восьмым тыдні перад Вялікаднем, перад пачаткам сямітыднёвага Вялікага посту як духоўнага і фізічнага ачышчэння чалавека, адбываўся сямідзённы ўсплёск душы народа.

У беларускага народа, як і ў кожнага іншага, яна мае свой асаблівы, адметны, самабытны характар. Гэта абумоўлівалася і стараданяй традыцыяй, і геаграфічна-прыроднымі ўмовамі, і асаблівасцямі народнага характару, і шмат яшчэ якімі іншымі характэрнымі рысамі. Але галоўным, канешне, тут была прыгажосць душы народнай: масленкавыя карагоды, песні, скокі, карнавалізаваныя вобразы, рытуалы, музыка, спевы, пераўвасабленні. Асновай усяго гэтага жыццесцвярджальнага аптымістычнага мастацтва была смехавая культура, неабходнасць даць палёгку душы ў жарце, смеху — "падурэць", як казалі ў народзе, перад перыядам філасофскага, маралізатарска-дыдактычнага роздуму, стрыманасці, строгасці, нават у нейкай ступені аскетычнасці, суровасці Вялікага посту.

Назвы тыдня Масленкі вельмі разнастайна-маляўнічыя: Сырны, Пусты, Развітальны, Крывы, Калодны, Гукальны, Разгульны, Гульнёвы і інш. Яны самі характарызуюць, ілюструюць тыя ці іншыя асаблівасці свята.

Забаранялася пасля доўгага каляднага мясаеда (ён пачынаўся 7 студзеня) есці мяса — яно замянялася вялікай колькасцю аладак і бліноў з маслам (адсюль і Масленка). Апошнія сімвалізавалі круг яго вялікасці Сонца (яго цяпло ўжо адчуваецца на Масленку) — сімвала вясны, росквіту прыроды. Рабілі і запальвалі ў чацвер (чысты па народных уяўленнях дзень тыдня) кола, спальвалі або разрывалі антрапаморфнае (чалавекападобнае) чучала — сімвал холаду, зімы.

Фантастычна прыгожай часткай Масленкі, як песняў, карагодаў, музыкі з'яўляецца адна з трох, побач з кананічнай паўночнай і падгалосачнай палескай, з'яў спеўнай культуры беларусаў — гуканне вясны. Усе спеўныя строфы ў гэтым выпадку заканчваліся прыгожым, высокім, працяглым гукальным трубным гукам "у-у-у-у-у!" Прыблізна так, як мы гукаем адзін аднаго, калі ў лесе заблудзімся. Але тут гукалі, як жывую істоту, як вялікасць Вясну. Паколькі вестунамі-сімваламі яе былі птушачкі, а натуральнае мысленне народа лічыла, што яны на сваіх слабых крылцах прынясуць Вясну, то гукалі іменна іх:

**Жаваронachкі, прыляціце,**
**Вы нам лецечка прынясіце,**
**А зімачку забярыце.**
**Бо нам зімачка надаела,**
**Усе хлебушкі пераела!**

Такія вяснянкі-заклічкі, як і адзін з першых карагодаў чакання Масленкі, гучалі на працягу ўсяго тыдня:

**А мы Масленку чакалі, чакалі!**
**Усю нядзельку выглядалі, выглядалі!**
**Мы думалі: Масленкі сем нядзелек,**
**сем нядзелек!**
**Ажно Масленкі сем дзянёчкаў,**
**сем дзянёчкаў!**

З сумам заканчваўся гэты карагод у апошні дзень тыдня — нядзелю:

**Мы думалі: Масленкі сем нядзель,**
**сем нядзель,**
**Застаецца Масленкі адзін дзень,**
**адзін дзень.**
**Масляная, шчаслівая, расцягніся**
**да Вялікадня!**

Карагодам, дзе найбольш арганічна спалучаюцца гукальныя і дакладна рытмізаваныя формы, можна назваць наступны, дарэчы, найбольш тыповы і шырока распаўсюджаны:

**А ў нас сёння Масленка, Масленка,**
**А з-пад куста ластаўка, ластаўка!**
**Села ў пана на таку, на таку,**
**А пан кажа: "Засяку, засяку!"**
**— Не сячы мяне, паночак, не сячы**
**Буду табе служыці, служыці!**
**Тваіх дзетак карміці, карміці!**

Калядны мясаед перад Масленкай быў часам зімовых вяселляў — яго называлі Малой Вясельніцай. Таму, хто быў ужо гатовы па ўзросту да сямейнага жыцця, але не ажаніўся ці дзяўчына не выйшла замуж, на Масленку існавала кара — "вешалі калодку".

Збіраліся жанчыны, прывязвалі хлопцу на пояс або да нагі вяроўку, а на другі канец — тоўсты круглы абрубак дрэва, які называўся калодкай. Хлопец цягаў гэтую калодку ў дамы дзяўчат, якія ўжо маглі, але не выйшлі замуж. У іх хатах адбываліся цэлыя спектаклі з пагрозай адрэзаць калодку, якая сімвалізавала бяздзейнасць асноўнага хлапецкага гонару. Але яны, зразумела, заканчваліся не фізічнай расправай, а адкупной ахвярай і добрым застоллем з песнямі і пачастункам. Як правіла, пасля такога добрага напамінку восенню пасля Пакравоў у час Вялікай Вясельніцы гэтыя хлопцы і дзяўчаты жаніліся і выходзілі замуж.

Паслямасленкавы панядзелак забаўна называюць Шыльным або Паласказубам. У дапятроўскія бязводачныя часы трэба было шылам вычысціць скаромнае паміж зубамі, а калі Пётр I пабудаваў корчмы, хадзілі паласкаць зубы туды — адсюль Паласказуб.



Шчасце, што прыгажосць Масленкі пачынае ўсведамляцца і адраджацца. Доказам можа быць масленкавае свята — кірмаш у Ляхавічах, якое арганізаваў аддзел культуры Ляхавіцкага райвыканкома 2 сакавіка — загадчык аддзела культуры Уладзімір Крук і метадыст па народнай творчасці Сяргей Варановіч. Свае мастацкія праграмы цудоўнай падгалосачнай культуры паказалі спеўныя гурты з вёсак Запужжа і Вялікая Лотва, Нача і Мыслабаж.

Але асабліва ўразіў сваёй самабытнасцю малады, але унікальна творчы фальклорны тэатр з вёскі з цудоўнай назвай Свяціца (некалькі прыгожых легендаў апяваюць назву вёскі). У праграме свяціцкага калектыву былі і песні, і танцы, і інтэрмедыі, і пароды на непатрэбную рэкламу, якая надаела ўсім, і вясковыя сцэнкі жыцця, і батлейка, і маскі, і яшчэ шмат што іншае. Шлях ад фальклорнага калектыву да творчай свабоды фальклорнага тэатра, яго разнастайнасці, жанравай раскаванасці ўяўляецца вельмі перспектыўным.

Цэнтральнай часткай, якая найбольш упрыгожыла свята Масленкі, было выступленне спевакоў, музыкаў, танцораў з мядзведзем, з грамнічным пеўнем, масленкамі-лялькамі Нацыянальнага ансамбля фальклору Беларускага саюза фалькларыстаў пад кіраўніцтвам Міколы Котава.

**Найбольш цікавыя моманты гэтай разнастайнейшай вялікай праграмы і ўсяго свята глядзіце на фотаздымках самаахвярнага фоталетапісца і прыхільніка традыцыйнай культуры Анатоля КАЛЯДЫ.**

**Васіль ЛІЦЬВІНКА.**

***НАВІНЫ ФІЛАТЭЛІІ***

# ДА ЮБІЛЕЮ МАСТАКА

Споўнілася 125 гадоў з дня нараджэння вядомага беларускага мастака-пейзажыста, народнага мастака, ганаровага акадэміка Беларускай акадэміі навук, ураджэнца Магілёўшчыны В. Бяльніцкага-Бірулі (1872—1957). Да юбілею жывапісца пошта рэспублікі выпусціла марку. На ёй партрэт мастака, даты жыцця і смерці, пэндзлі і пояс з беларускім арнаментам. У сённяшняй практыцы беларускай пошты спецыяльныя гашэнні звычайна праводзяцца ў Мінску. 125-годдзе В. Бяльніцкага-Бірулі вырашана было адзначыць спецгашэннем на раённым вузле г. п. Бялынічы. У дзень гашэння 26 лютага на мясцовай пошце сабраліся філатэлісты Магілёва, Мінска, Гомеля, якія пажадалі




самаручна пагасіць канверты спецыяльным штэмпелем і адправіць пісьмы з гэтым штэмпелем сваім сябрам. Да гашэння быў выдадзены спецыяльны канверт. На яго малюнку — музей В. Бяльніцкага-Бірулі ў Магілёве. У малюнку штэмпеля — юбілейны тэкст "125 гадоў з дня нараджэння В. Бяльніцкага-Бірулі", палітра мастака, пэндзлі і пояс з нацыянальным арнаментам.

Варта адзначыць, што ў г. п. Бялынічы шануюць памяць пра свайго вялікага земляка. Тут з 1970 года працуе музей мастака. Сярод больш чым 350 экспанатаў — 26 карцін В. Бяльніцкага-Бірулі. Адна з іх — "Ранняя вясна", створаная ім у 1912 годзе, адлюстравана на паштовай марцы з серыі "Жывапіс Беларусі", выдадзенай у 1983 годзе.

Трэба сказаць, што гэта не першы паштовы выпуск, прысвечаны выдатнаму беларускаму жывапісцу, майстру лірычнага пейзажа. У 1972 годзе, адзначаючы 100-гадовы юбілей мастака, пошта СССР выпусціла мастацкі канверт з партрэтам В. Бяльніцкага-Бірулі, а на Мінскім паштамце было праведзена спецыяльнае гашэнне юбілейным штэмпелем.




**Леў КОЛАСАЎ.**

Рэдактар
Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:
Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства «Радзіма»).



НАШ АДРАС:
220005, Мінск, праспект Ф. Скарыны, 44.
Тэлефоны: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана, звярстана і аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". (220041, г. Мінск, пр. Скарыны, 77).
Тыраж 3 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 410.
Падпісана да друку 17.3.1997 г. у 12.00.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 81.